

№ 18 (179)
Май 2007 года

# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года

## Аб'ядноўваюцца намаганні



*Менавіта так можна назваць першую спробу дзяржаў-суседзяў Беларусі аб'яднаць намаганні па здзяйсненні праекта віртуальнай рэканструкцыі дакументальнай спадчыны і кніжных збораў князёў Радзівілаў.*

*Канферэнцыя з гэтай нагоды адбылася ў Нацыянальнай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь 27–28 красавіка 2007 года пад патранажам Нацыянальнай камісіі Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКА і Маскоўскага Бюро ЮНЕСКА ў адпаведнасці з «Праграмай ЮНЕСКА "Памяць міра": дзейнасць бібліятэк, архіваў, музеяў па захаванні дакументальнай спадчыны».*

Сам факт уключэння Архітэктурна-культурнага ансамбля рэзідэнцыі рода Радзівілаў у Нясвіжы ў Спіс сусветнай спадчыны, вялікія рэстаўрацыйныя работы, якія вядзе наша краіна на гэтых помніках, паспрыялі ўзвышэнню цікавасці да іх у нашых суседзяў – Літвы, Польшчы, Расіі, Украіны – тых краін, архіўныя, бібліятэчныя і музейныя ўстановы якіх маюць у сваіх зборах (і маюць шмат) дакументальных і матэрыяльных каштоўнасцей нясвіжскай ардынацыі рода Радзівілаў.

І гэта не проста зацікаўленасць спецыялістаў, тут трэба адзначыць, што наспеў час аб'яднаць намаганні дзяржаў па комплексным вырашэнні значнай гістарычнай праблемы, што ўзнікла разам з разбурэннем адной з самых вялікіх еўрапейскіх дзяржаў – Рэчы Паспалітай, у якой Вялікае княства Літоўскае, наша прабацькаўшчына, і яго старажытны род Радзівілаў займалі вядучае месца (нагадаем, што ВКЛ уключала ў сябе значныя абшары сённяшніх Беларусі, Літвы, Польшчы, Расіі, Украіны).

Дыскусія, якая адбылася пад час канферэнцыі, вызначыла не толькі важкасць такога міжнароднага праекта, але і распрацавала механізм яго выканання. Спецыялісты названых краін альбо ўжо прыступілі да пераводу дакументальнай і кніжнай спадчыны Радзівілаў на электронныя носьбіты (Беларусь, Польшча), альбо гатовыя да ўдзелу ў праекце. Зараз павінны сказаць сваё слова дзяржаўныя структуры гэтых краін, бо работа патрабуе не толькі фізічных (і значных) намаганняў спецыялістаў, але і фінансавання, не прадугледжанага ніякімі папярэднімі планамі.

Па выніках работы канферэнцыі быў вызначаны склад Міжнароднага савета па праекце віртуальнай рэканструкцыі дакументальнай спадчыны і кніжных збораў Радзівілаў, а таксама прыняты выніковы дакумент канферэнцыі (будзе апублікаваны ў наступным нумары «КГ»).

На канферэнцыі выступілі і ўхвалілі праект ЮНЕСКА (як пілотны праект гэтай арганізацыі) Марыус Лукошюнас – праграмны спецыяліст Бюро ЮНЕСКА (Масква), Аста Дзірмаітэ – адказны сакратар Нацыянальнай камісіі па справах ЮНЕСКА Літвы, Моніка Чартарыйская – прадстаўнік Міністэрства культуры і захавання спадчыны Польшчы, Зоя Ярашэвіч-Пераслаўцау – дырэктар Інстытута гісторыі і міжнародных адносін (Польшча), Натальля Душкіна – прафесар Маскоўскага архітэктурнага інстытута (Расія), Валерый Леонаў – дырэктар бібліятэкі Расійскай акадэміі навук, Мікалай Нікалаеў – загадчык аддзела рэдкай кнігі Расійскай нацыянальнай бібліятэкі (г. Санкт-Пецярбург), Любоў Дубровіна – дырэктар Інстытута старадрукаў Нацыянальнай бібліятэкі Украіны.

Інтарэсы нашай краіны прадстаўлялі Уладзімір Шчасны – старшыня Нацыянальнай камісіі Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКА, Уладзімір Адамушка – дырэктар Дэпартамента па архівах і справаводстве Міністэрства юстыцыі Беларусі, Раман Матульскі – дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, Людміла Кірухіна – намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, Уладзімір Гілеп – старшыня Беларускага фонду культуры, старшыня Нацыянальнага міжведамаснага савета па Радзівіліяне, Вячаслаў Насевіч – дырэктар Беларускага навукова-даследчага цэнтра электроннай дакументацыі, Галіна Кандрацьева – намеснік дырэктара Нацыянальнага гісторыка-культурнага музея-запаведніка «Нясвіж» і іншыя асобы з архіваў і бібліятэк. На жаль, зноў незаўважаным быў інтарэс да справы з боку Міністэрства культуры Беларусі, якое, відаць, было заклапочанае толькі публічным мерапрыемствам: рыхтавалася да адкрыцця мемарыяльнай дошкі аб падзеі, што адбылася год таму, – уключэнне спадчыны Радзівілаў у Спіс сусветнай спадчыны ЮНЕСКА.

Ці дакладна растаўлены прыярытэты міністэрства ў гэтай справе? Што важней для перспектывы развіцця культуры і захавання спадчыны з дзвюх гэтых падзей?

*Пакуль Міністэрства культуры будзе рыхтаваць адказ на нашае пытанне, адзначым, што канферэнцыя (і без Мінкульта) прайшла на высокім узроўні, а дошка ў Нясвіжы (з удзелам Мінкульта) была адкрыта 28 красавіка 2007 года.*

*У гэтым мерапрыемстве прынялі ўдзел і госці з Літвы, Польшчы, Расіі, Украіны – удзельнікі канферэнцыі.*

***Уладзімір ГІЛЕП***




*Шаноўныя чытачы «Краязнаўчай газеты»!*

*Нізка схілім галовы перад тымі, хто загінуў, быў пакалечаны, здабываючы гэты светлы Дзень, у якім мы з Вамі жывем!*

*Глыбокую пашану выкажам тым, хто таксама шмат зрабіў для Вялікай Перамогі, застаўся жывым, дбаў пра лепшыя дні для свайго народа і роднай Бацькаўшчыны.*

*Сярод іх – былы партызан і франтавік, наш сябра, аўтар «КГ», журналіст Аркадзь Апанасавіч Тоўсцік.*

*Віншуем яго і ўсіх ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны з Днём Перамогі. Здароўя Вам, дарагія сябры!*

*Рэдкалегія і рэдакцыя*

*(Запрашаем на стар. 3)*

### Нам – віншаванні

*Дарагі Уладзімір Аляксандравіч!*

*У Вашай асобе віншуем усіх сяброў Фонду з 20-годдзем стварэння арганізацыі!*

*Шчыра жадаем творчых поспехаў у той высакароднай справе, якою Вы і Вашыя калегі займаецеся! Моцнага Вам здароўя і дабрабыту!*

*З павагаю –*

*Ліліяна АНЦУХ,*
*галоўны рэдактар выдавецтва «Чатыры чвэрці»*

## «Хай Беларусь, мая старонка, Уваскрасне к вольнаму жыццю!»



*Узгорак за ўзгоркам, бясконцыя далягляды са смугою лясоў ды амаль ужо летні блакіт нябёсаў, што часам з'яўляўся з-за гушчэчы аблокаў... Непаўторная вясновая прыгажосць Мінскага і Лагойскага краю ласкава вітала ўдзельнікаў вандроўкі «Купалавым гасцінцам», арганізаванай грамадскім аб'яднаннем «Беларуская асацыяцыя экскурсаводаў і гідаў-перакладчыкаў».*

*(Працяг артыкула «Па старым гасцінцы – да Купалы» чытайце на стар. 6)*

## «Цалую рукі матулі маёй»

**Так называецца выстава, створаная ў Карэліцкім раённым краязнаўчым музеі.**

**Кожны з нас зберагае ў сваім сэрцы самыя цёплыя і светлыя пачуцці да найдаражэйшага на свеце чалавека – матулі.**

Пакуль яшчэ зялёная ралля
Трымае нас па міласці закона,
Сынок і Маці – зерне і ралля.
Сынок і Маці – мудрая ікона.

Я. Янішчыц

Асветлены агеньчыкам лампады абраз «Пакроў Прасвятой Багародзіцы» ў цэнтры выставачнай залы, абразы «Маці Божай Жыровіцкай» і «Мінскай Божай Маці» (Аранты Адзігітры) – блаславенне мацярынскага подзвігу жанчыны, якая нараджае дзяцей і зберагае іх дзеля жыцця.

Як адзначыў беларускі паэт Юрка Голуб, экспанаты выставы ўражваюць наведвальнікаў багаццем імён славутых жанчын, якіх узгадавала карэліцкая зямля.

*(Заканчэнне на стар. 2)*





# Вяртанне Якуба Коласа... ...у Каралішчавічы

***Цяпер некаторыя ўжо і не ведаюць, што пэўны час цесна нітавала зацішны куток па магілёўскай шашы за 20 км ад Мінска і Якуба Коласа, а пасля яго смерці і амаль усіх беларускіх пісьменнікаў.***

Там, у ельніку і сасняку, паблізу зарослага аерам ляснога азерца, куды любілі заходзіць ласі, а да іх падкрадацца ваўкі, быў паляўнічы дом для аднаго з беларускіх кіраўнікоў. У 1949 годзе гэтую будыніну перадалі Саюзу пісьменнікаў як Дом творчасці. Па сведчанні старэйшых літаратараў (Я. Брыль, М. Аўрамчык і інш.), там было 14 пакояў, затым за сродкі Літфонда СССР былі ўпарадкаваная прылеглая тэрыторыя і пабудавана некалькі фінскіх домікаў. З 1950-га тут пачаў бываць і пясняр. Праўда, спачатку не зусім з ахвотай: яго больш вабілі светлыя пухавіцкія ваколіцы, а тут прыгнятала вясновая і асенняя зацененасць і сырасць. Але хутка ён асвоіўся (напрыклад, менавіта тут адзначаў 70-гадовы юбілей, на які сабралася каля 120 гасцей). Тым больш, што сюды пацягнуліся ягоныя паплечнікі (Я. Маўр, К. Крапіва, М. Танк, А. Куляшоў), маладзейшыя (І. Мележ, І. Шамякін і інш.), якія прыязджалі адны і з сем'ямі папрацаваць і адпачыць у цішыні. Тут пачалі адбывацца семінары творчасці маладых літаратараў розных пакаленняў, літвечарыны. Сюды любілі зазірнуць мастакі, кампазітары, артысты, кінематаграфісты, пісьменнікі з розных рэгіёнаў СССР і з-за мяжы (А. Фадзееў, А. Твардоўскі, М. Ісакоўскі, М. Рыльскі, Ул. Бранеўскі і інш.), дык паступова каралішчавіцкі дом творчасці стаў буйным цэнтрам культуры, а падзеі, сустрэчы і выпадкі, што ў ім адбываліся, сталі любімай тэмай для легендарных расказаў.

У сувязі з тым, што ў Доме творчасці ў Каралішчавічах станавілася цесна ды ён ужо не адпавядаў сучасным запатрабаванням (у ім не было цёплай вады і інш.), урад нашай рэспублікі з падтрымкай Літфонда СССР пабудаваў Дом творчасці пісьменнікаў на Іслачы (Валожынскі раён). Каралішчавіцкі быў прададзены і апынуўся ў іншых гаспадароў. Да нядаўняга часу там з былой памяці захоўваліся толькі мемарыяльная дошка, прысвечаная Я. Коласу з указаннем гадоў, калі ён жыў і працаваў тут, ды назва Дома адпачынку «На ростанях». Безумоўна, сітуацыя склалася не зусім нармальная, і зацікаўленыя бакі, Коласаў музей у Мінску і Дом адпачынку «На ростанях», вырашылі выправіць становішча, аб'яднана вярнуць дух беларушчыны, творчай атмасферы ў Каралішчавічы. У сувязі з гэтым была распрацаваная навуковая канцэпцыя літаратурна-мемарыяльнай экспазіцыі, што можа сцісла, але грунтоўна расказаць пра жыццёвы і творчы шлях песняра, пазнаёміць наведвальнікаў з ягонымі творамі і лістамі, асабістымі рэчамі і прадметамі, а таксама з рознымі фотаілюстрацыямі, з матэрыяламі розных перыядычных выданняў, творчасцю некаторых мастакоў, прысвечанай яму.

26 красавіка ў славутым каралішчавіцкім будынку адбылося літаратурна-музычнае мерапрыемства, прысвечанае адкрыццю мемарыяльнага пакоя Я. Коласа. Пасля агучаных вершаў песняра і музыкі на ягоныя творы прысутных (а іх было болей за 100 чалавек) з урачыстай падзеяй павітала дырэктар Дома адпачынку Н. Кусмерская-Мялік, а дырэктар Коласавага музея З. Камароўская расказала пра сумесную задуму па ўшанаванні памяці Я. Коласа і яе выкананне. Ухвалілі здзейсненую задуму і прамовілі цёплае слова пра творчы подзвіг Я. Коласа першы намеснік міністра жыллёва-камунальнай гаспадаркі Рэспублікі Беларусь Г. Ляпуноў і начальнік аддзела культуры Мінскага райвыканкама С. Шаблыка. Сын песняра, доктар тэхнічных навук М. Міцкевіч, успомніў эпізоды бацькавага знаходжання тут, прачытаў урыўкі з паэмы «Сымон-музыка».

Шмат чаго нагадалі тыя, хто яшчэ бачыў, чуў у Мінску і тут Я. Коласа: знакамітыя творцы Мікола Аўрамчык і Лідзія Арабей, дзіцячая пісьменніца Рыма Стаховіч-Ларчанка. Вядомыя паэты Васіль Жуковіч і Казімір Камейша падзяліліся сваімі думкамі пра неўміручасць Коласавых твораў, прачыталі свае вершы, прысвечаныя аднаму з Настаўнікаў у літаратуры. Вядучым на адкрыцці названага мемарыяльнага пакоя быў і выступіў са словам пашаны да Я. Коласа яго зямляк і лаўрэат Дзяржаўнай прэміі ягонага імя ў галіне літаратуры Генрых Далідовіч, які заадно падарыў гаспадарам падшыўку «Краязнаўчай газеты» за гэты год, дзе з першага нумара асвятляецца жыццё і дзейнасць Я. Купалы і Я. Коласа ў сувязі з іхнімі 125-гадовымі юбілеямі.



*Фота Анатоля КІШЧАНКІ*

***Пасля прысутныя агледзелі экспазіцыю (яна будзе папаўняцца) у тлумачэнні навуковых супрацоўнікаў Коласавага музея. Удзел ва ўрачыстасці бралі мастацкія калектывы «Святлана» і «Славяначка» аддзела культуры Стаўбцоўскага райвыканкама, вядомы артыст радыё А. Вінярскі. Не магло не выклікаць здзіўлення, што мерапрыемства, якое ўсе дружна прызналі святам, праігнаравалі... супрацоўнікі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь!!!***

***Ул. інф.***

# «Цалую рукі матулі маёй»

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)**

Ёсць жанчыны, чые імёны ўвайшлі ў гісторыю. Менавіта з іх і пачынаецца экспазіцыя ў выставачнай зале. Ганна Катажына Радзівіл, маці 15 дзяцей, была мецэнаткаю і фундаткаю. Па яе загадзе будаваліся грэблі, дарогі, масты і млыны, засноўваліся мануфактуры, у тым ліку мануфактура па вытворчасці дываноў у Міры. Пазней сын Ганны Катажыны Міхал Казімір Радзівіл (Рыбанька) адкрыў у Карэлічах мануфактуру па вытворчасці тканых габеленаў, дзякуючы якой мястэчка ўвайшло ў гісторыю.

Рыбанька вельмі любіў сваю маці і моцна перажываў яе смерць. У сваім дзённіку ён называў Ганну Катажыну «найкаханай маткаю і дабрадзейкаю» і адзначаў, што «роўная ёй матрона ў доме хіба будзе».

Нельга не ўспомніць яшчэ пра адну славутую жанчыну з роду Радзівілаў, якая ўвайшла ў гісторыю Беларусі як асветніца, паэт і драматург. Гэта жонка Рыбанькі, Францішка Уршуля Радзівіл, партрэт якой і кніга твораў, выдадзеная ў 2003 годзе ў Мінску, таксама ёсць на выставе.

Традыцыі славутай Францішкі Уршулі працягвала ў 30-я гады мінулага стагоддзя Ганна Іванаўна Сташэўская, удзельніца падпольнага руху і ТБШ у Заходняй Беларусі. У Міры па яе ініцыятыве былі створаны драматычны гурток, хор і беларуская бібліятэка. Удзельнікамі драматычнага гуртка былі і дзеці Сташэўскай – Валянцін і Ларыса. Спектаклі карысталіся вялікай папулярнасцю ў насельніцтва.

Ганна Сташэўская перад вайной была дырэктарам Мірскай школы, што носіць сёння яе імя. Фашысты расстралялі Сташэўскую ў першыя дні вайны каля сцен Мірскага замка.

Як святыню, захоўваў шмат гадоў ліст ад маці сын Ганны Сташэўскай Валянцін Паваротны, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, які абараняў Ленінград, вызваляў Кіеў і Заходнюю Украіну, Венгрыю, а ў 1945-м быў паранены ў Германіі. Гэты ліст ён атрымаў ад маці 3 мая 1941 годзе, калі праходзіў ваенную службу ў Ленінградзе, і пранёс яго ў кішэні гімнасцёркі, каля сэрца, праз усю вайну.

Недалёка ад Міра, у вёсцы Маласельцы, нарадзілася Анастасія Іванаўна Брыль, маці народнага пісьменніка Беларусі Янкі Брыля, якой ён прысвяціў эсэ «Ты жывеш».

Побач з Анастасіяй Іванаўнай Брыль – фотаздымкі Марыі Якаўлеўны Іпатавай, маці вядомай беларускай пісьменніцы, лаўрэата многіх літаратурных прэмій, кавалера ордэна «Знак Пашаны» і медаля Ф. Скарыны Вольгі Іпатавай. Светлы воблік матулі, якую будучая пісьменніца страціла ў 4-гадовым узросце, увасоблены ёю ў паэме «Слова пра маці».

Жанчынам – удзельніцам Вялікай Айчыннай вайны, салдацкім удовам, а таксама маці, сыны якіх загінулі на афганскай вайне, прысвечаны наступныя раздзелы экспазіцыі. Асаблівую цікавасць выклікаюць фотаздымкі ваеннага часу. На іх мы бачым радыстак, санітарак, сувязных – нашых зямлячак, маладосць якіх была абпалена вайной. Замест прыгожых сукенак і чаравікаў на іх – гімнасцёркі, шынялі і боты. Замест доўгіх косаў, шыкоўных прычосак – коратка стрыжаныя валасы. Разам з тысячамі іншых байцоў гэтыя жанчыны перамаглі ворага ў страшнай і бязлітаснай вайне, пасля якой нарадзілі і выгадавалі добрых і сумленных дзяцей.

*Вякамі глядзелі жанкі з-пад рукі,*
*Чакалі мужоў і сыноў.*
*І падалі зоркі, нібы светлякі,*
*У прорвы бязрадасных сноў.*
*І самі касілі, і самі аралі,*
*А іх дарагія за іх паміралі...*

Іх шмат было пасля вайны – салдацкіх удоў, жанчын, якія не дачакаліся з вайны мужоў. Замест іх прыйшлі ў дом пахавальныя лісты. Пасля атрыманага жахлівага ліста ў гаротніц часам не хапала сіл да цяжкай сялянскай працы, але побач былі дзеці, трэба было іх ставіць на ногі. І, сцяўшы зубы, працавалі ўдовы на палетках, на фермах, на ўласных гаспадарках, і дзетак даглядалі, выводзілі ў людзі, і выраслі тыя дзеці ваеннай пары сапраўднымі людзьмі.

У 1940 годзе выйшла замуж жыхарка вёскі Лукі Таццяна Цімафееўна Мардзіловіч за аднавяскоўца Барыса Лукіча. Хутка ў іх нарадзілася дачушка Надзейка. Але нядоўга цешыліся яны сваім шчасцем, бо пачалася вайна. Барыс Мардзіловіч спачатку партызаніў, а са жніўня 1944 года ваяваў на фронце.

У сакавіку 1945-га сям'я атрымала паведамленне аб тым, што Барыс Лукіч прапаў без вестак. Не верылі блізкія, што ён загінуў, чакалі шмат гадоў, спадзяваліся, што вернецца гаспадар. Таццяна Цімафееўна працавала ў калгасе на самых цяжкіх работах, куды ніхто не хацеў ісці. Узнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга. Яна выдатная ткачыха, рабіла прыгожыя дываны. Адна гадавала дачушку Надзейку, і разам яны чакалі мужа і бацьку. Надзея Барысаўна, калі стала дарослай, спрабавала шукаць бацьку праз розныя тэлеперадачы і газеты, але безвынікова.

Немагчыма без хвалявання чытаць франтавыя лісты Барыса Лукіча, якія шмат гадоў беражліва захоўваліся ў сям'і, а цяпер прадстаўлены ў музейнай экспазіцыі.

Вось вытрымкі з гэтых лістоў.

*«Дарагая Танечка, толькі я цябе прашу, не журыся, толькі глядзі сама сябе і глядзі маленькую нашу Надзьку і ўгаворвай яе, каб яна не плакала, усяго добрага табе, пакуль бывайце, цалую цябе і сваю любую Надзьку».*

*«Дарагая мая Танечка, ты мне пішаш і просіш, каб я табе пісаў лісты хоць кожны дзень... я пра цябе не забываю і ніколі не забуду, абы толькі застацца ў жывых, то цябе не дам у крыўду, хаця я цябе не даваў у крыўду, дарагая мая любая жонка...».* (23.X.1944 г.)

У адным з лістоў Барыс Лукіч папрасіў, каб жонка выслала яму фотаздымак свой і дачкі, а калі атрымаў яго (гэты унікальны фотаздымак ёсць на выставе), то прыгледзеўшы, што на нагах у дачушкі не чаравічкі, а маленькія лапцікі, вельмі засмуціўся і пабяцаў, што абавязкова вышле чаравічкі, як толькі дазволяць слаць пасылкі.

*«...дарагая мая Танечка, табе паведамляю, што я сваёй любай маленькай Надзеньке выслаў пасылку: 2 пары чаравічкаў і некалькі кавалачкаў тканіны ёй на сукенку, але толькі не знайшоў ёй панчошкі, але там можа дзе знойдзеш.., так што мая любімая дачушка Надзька будзе добра апранута і абута і для цябе можа што-небудзь атрымаецца.*

*Дарагая мая Танечка, маліся Богу гэты час, каб шчасліва прайсці 18 кіламетраў да мора.., хто дойдзе, той скончыць вайну, прывітанне вам усім, цалую вас усіх – і цябе, і сваю дачушку Надзьку тулю да свайго змучанага сэрца, пакуль бывай».* (14.II.1945 г.)

Але сустрэцца ім не давялося...

Карэліцкая зямля ўзгадавала цэлую плеяду жанчын з легендарнымі лёсамі, чыя самаадданая праца была адзначана залатой Зоркай Героя. Сярод іх Вольга Лукінічна Калоша, Надзея Сцяпанаўна Трускоўская, Таццяна Рыгораўна Арда, Яўгенія Іосіфаўна Юшко і іншыя. Гэтыя жанчыны не толькі выдатныя працаўніцы, але і пяшчотныя маці і бабулі.

Наступны раздзел выставы прысвечаны маці, якія ўзнагароджаны за свой подзвіг ордэнамі «Маці-гераіня», «Мацярынская слава» і «Медалямі мацярынства».

На карэліцкай зямлі нарадзілася шмат таленавітых вучоных, сярод іх ёсць і жанчыны, якія ўдала спалучаюць навуковую дзейнасць з мацярынскімі абавязкамі.

Прафесар Гомельскага універсітэта, доктар філалагічных навук Аляксандра Аляксандраўна Станкевіч не толькі аўтар 180 навуковых публікацый, у тым ліку манаграфій, падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў, але і маці двух сыноў і бабуля чатырох унукаў.

Прафесар Мінскага дзяржаўнага педуніверсітэта, кандыдат філалагічных навук Ніна Васільеўна Гаўрош (нарадзілася ў в. Лукі), дачка Героя Сацыялістычнай Працы Вольгі Лукінічны Калошы, аўтар 120 навуковых і вучэбна-метадычных прац, разам з мужам выгадавала двух сыноў, дала ім вышэйшую адукацыю.

Удзельніца шматлікіх міжнародных канферэнцый Лідзія Мікалаеўна Казей з Цырына сваё жыццё прысвяціла медыцыне. Матэрыялы для будучай доктарскай дысертацыі, тэматыка якой знаходзілася на стыку дзвюх навук, медыцыны і археалогіі, яна збірала на працягу 10 гадоў, выязджаючы ў археалагічныя экспедыцыі. Да гэтага часу Лідзія Мікалаеўна паспела пабудаваць дом у Мінску і выгадавала двух сыноў. Адзін з іх стаў юрыстам, а другі – археолагам.

У Гродзенскім дзяржаўным універсітэце працуе беларуская пісьменніца, крытык і літаратуразнавец, паэт, кандыдат філалагічных навук Ала Мікалаеўна Петрушкевіч, маці двух цудоўных дзяцей.

Іна Генадзьеўна Германенка (нарадзілася ў Міры) – загадчык кафедры дзіцячых інфекцыйных хвароб Беларускага дзяржаўнага медыцынскага універсітэта. Яна аказвае экстраную кансультацыйную дапамогу хворым дзецям па ўсёй Рэспубліцы Беларусь. Яе дачка Алена – студэнтка фармацэўтычнага факультэта Віцебскага універсітэта.

Кандыдат біялагічных навук Лідзія Іосіфаўна Лабоцкая з Міра шмат гадоў працавала ў Інстытуце генетыкі і цыталогіі АН БССР. Практычным вынікам яе дзейнасці з'явілася атрыманне новых форм злакавых раслін, якія дэманстраваліся на ВДНГ СССР і былі ўключаны ў Сусветную калекцыю. Цяпер Лідзія Іосіфаўна пенсіянерка, дапамагае дачцэ гадаваць сына.

У звычайнай сялянскай сям'і вырасла оперная спявачка Антаніна Сцяпанаўна Гіль-Гаркуша. Пасля сканчэння Мінскага музычнага вучылішча і Адэскай кансерваторыі яна шмат гадоў працуе вядучай салісткай Днепрапятроўскага опернага тэатра. Двое яе сыноў таксама сталі музыкантамі, адзін з іх, Алег, – артыст аркестра Міхаіла Фінберга.

Гэты спіс можна працягваць...

***Больш за 200 экспанатаў прадстаўлены на выставе «Цалую рукі матулі маёй», якая амаль паўгода экспанавалася ў музеі, а цяпер, у Год дзіцяці, працуе як перасоўная ў школах, вучылішчах і арганізацыях раёна, бо немагчыма гаварыць пра матуль, не ўзгадаўшы тых, каму яны прысвячаюць сваё жыццё.***

***Святлана КОШУР,***
***старшы навуковы супрацоўнік Карэліцкага краязнаўчага музея***





# Лукомскі з полацкай зямлі

*Полацк – горад мастацкай славы. Асобная старонка ў яе летапісе – лёсы майстроў выяўленчага мастацтва. У Віцебскім тэхналагічным універсітэце выкладчыкам працуе палачанка па нараджэнні жывапісец Галіна Васільева. У Наваполацку жыве плакатыст, графік Марына Круглікава – аўтар серыі плакатаў «500 год з дня нараджэння Ф. Скарыны». У Полацку нарадзіўся жывапісец Аляксандр Масяйкоў. І хаця працуе ў Гродне, ва ўсе часы застаецца ўважлівым да полацкай тэмы (як сведчанне – графічныя лісты на полацкія матывы). У Траццякоўскай галерэі захоўваюцца 30 карцін Савелія Абрамавіча Сорына (нарадзіўся ў Полацку ў 1878 годзе, з 1917 жыў у Парыжы). Полацк – радзіма Нінель Шчаснай, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі. Творы Нінель Іванаўны – у многіх мастацкіх музеях нашай краіны, у прыватных калекцыях і галерэях розных краін свету. У Віцебску жыве і працуе палачанін жывапісец Анатоль Ізаітка. Сярод найболей вядомых палотнаў – «Купальская ноч», «Блакітная Полаччына», «Мой родны кут».*

Але вось, уважліва перагарнуўшы старонкі гісторыка-дакументальнай хронікі Полацка «Памяць», сярод пераліку іншых імёнаў не знайшоў Іллі Абелевіча Лукомскага. А, між тым, ён нарадзіўся ў Полацку – у 1906 годзе. У маі. У мінулым годзе была самая нагода адзначыць падзею, успомніць жывапісца і ў Полацку, і ў Віцебску, і, наогул, у Беларусі. Мо тады і ўключылі б імя Іллі Лукомскага ў гісторыю Беларусі? Згадваюць жа ў «Беларускай Энцыклапедыі» іншых Лукомскіх... Расійскага вайскоўца (аднаго з арганізатараў белай гвардыі!), генерал-лейтэнанта Аляксандра Сяргеевіча Лукомскага. А таксама – вучонага-медыка, Героя Сацыялістычнай Працы Паўла Яўгенавіча Лукомскага. Вядомасць мае род Лукомскіх, які, хаця і захаваўся да пачатку XX стагоддзя, змізарнеў. Прадстаўнікі яго не карысталіся княжацкім тытулам. В. Насевіч піша ў «Беларускай Энцыклапедыі»: «Лукомскія... род герба "Рох" зменены ў ВКЛ. Магчыма, паходзяць з мясцовых князёў, нашчадкаў полацкага князя Усяслава Брачыславіча, але паходжанне дакладна не высветлена. Упершыню згадваюцца ў 2-й пал. XVI ст. князі Васіль (упамінаецца ў 1463) і Іван (у 1473 з'ехаў у Маскву, дзе ў 1493 пакараны смерцю за змову супраць вялікага князя Івана III). У пач. XVI ст. вядома некалькі князёў Лукомскіх, якія сумесна валодалі замкам і мястэчкам Лукомль і інш. маёнткамі ў Лукомскім княстве...»

А ў Расіі ў мінулым годзе Лукомскага ўспомнілі. 5 мая ў Санкт-Пецярбургу ў Ваенна-гістарычным музеі артылерыі, інжынерных войск і войск сувязі адкрылі выстаўку «Ад Сталінграда да Берліна. Да 100-годдзя мастака І.А. Лукомскага». Якой жа была дарога (і жывапісца, і яго палотнаў) да гэтай памятнай падзеі?..

Вельмі мала вядома з полацкага перыяду ў жыцці Лукомскага. Нарадзіўся Ілля ў сям'і служачага. Мастацкія здольнасці з'явіліся ў хлопчыка вельмі рана. Відавочна, да 16 гадоў жыў у Полацку. А тады паступіў у Маскоўскія вышэйшыя мастацкія майстэрні (ВХУТЕМАС). Педагогамі былі Фаворскі, Бруні, Чарнышоў, Кузняцоў. Імёны для расійскага жывапісу пачатку XX стагоддзя знакавыя.

Ужо з 1929 года Лукомскі прымае ўдзел у мастацкіх выстаўках. А ў 1930 годзе, як толькі скончыў аддзяленне манументальнага жывапісу, быў прызваны ў Чырвоную Армію. Год звычайнай службы. З восені 1931 – ізноўку выключна творчая работа. Першым сур'ёзным палатном сам мастак лічыў карціну «Рэўваенсавет Асобнай Чырванасцяжнай Далёкаўсходняй Чырвонай Арміі». Яна ўпершыню была выстаўлена на імпрэзе «XV год Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі». Праўда, крыху раней Ілля Лукомскі стварыў яшчэ адну запамінальную работу – «На штурм вугля». Менавіта за яе маладога жывапісца ў 1932 годзе прымаюць у Саюз савецкіх мастакоў. Рамантыка перадольвання цяжкасцяў – лейтматыў абодвух палотнаў.

Але па-сапраўднаму, напоўніцу разгарнуўся талент мастака пад час Вялікай Айчыннай вайны. У складзе жывапісцаў студыі Грэкава Ілля Лукомскі трапляе на фронт. Робіць у самых складаных умовах сотні замалёвак, эцюдаў. Усе гэтыя матэрыялы становяцца найкаштоўным дакументам эпохі, а псіхалагічна выверaныя, да драбніц раскрытыя вобразы – унікальнай партрэтнай галерэяй... Сын – Васіль Лукомскі, інжынер-гідрабудаўнік (будаваў славутую Брацкую ГЭС), цяпер захоплены драўлянай скульптурай, так расказвае пра ваенныя гады бацькі:

– Пад Вязьмай і Сталінградам, лічы, у самым пекле, ён маляваў партрэты алоўкам, вугалем. Пісаць у цёмным бліндажы алеем альбо акварэллю – гэта ж немагчыма... Бацька бачыў тады сваю галоўную задачу ў тым, каб паказаць, занатаваць сучасных яму людзей...

Разам з Чырвонай Арміяй Ілля Лукомскі дайшоў да Берліна. За творчасць на вайне і за ратную службу быў адзначаны медалём «За баявыя заслугі». Перажыванні, уражанні, сюжэты, прынесеныя з фронта, выліліся ў вялікае кампазіцыйнае палатно «Клятва сталінградцаў», створанае ў 1950 годзе. Галоўная тэма карціны – любоў да Радзімы, рашучасць да апошняга дыхання змагацца за яе свабоду. Дарэчы, зараз «Клятва сталінградца» знаходзіцца ў Ваенна-гістарычным музеі артылерыі, інжынерных войск і войск сувязі. Атрымліваецца, што цікавасць у збіральнікаў гістарычнай памяці да творчасці Лукомскага даўняя. Расказвае сын мастака (Васіль Ілліч, з якім мне ўдалося завочна пазнаёміцца, беражліва ставіцца да творчай спадчыны бацькі і маці-мастачкі Ніны Каратковай):

– Прыемна, што 100-гадовы юбілей бацькі не абыйдзены ўвагай. Рэалістычнае мастацтва сёння не ў самай вялікай пашане, мякка кажучы. А яны, бацька і маці, бачылі свет такім, які ён быў, без прыдумак. Хаця поруч з служэннем рэалізму яны выразна заяўлялі сябе як рамантыкі. За фізічнымі выпрабаваннямі чалавека яны бачылі душу. Не заставаліся, словам, раўнадушнымі хранікёрамі. Канечне ж, паўплываў на іх час – 1920-я, 1930-я... Мама 17-гадовай дапытлівай дзяўчынай, захопленай мастацтвам, прыехала вучыцца ў Маскву па пуцёўцы камсамола Узбекістана. Яна назаўсёды захавала ў сваім мастакоўскім мысленні светлыя колеры... І, канечне ж, узнёсласць, рамантыку, здавалася б, тое, што павінна з маладосцю прайсці. Калі я працаваў у Брацку, мама амаль тры гады жыла побач. Так да яе ўзбекскіх матываў дадаўся фактычна мастацкі летапіс Брацкай ГЭС...

Не выпадковым з'яўляецца той факт, што ў студзені 2006 года прайшла яшчэ адна выстаўка, звязаная з творчасцю Іллі Лукомскага, цяпер ужо ў Маскве, у Доме скульптара. Поруч былі выстаўлены карціны і малюнкі Іллі Лукомскага і Ніны Каратковай, мужа і жонкі, якія разам вучыліся ў ВХУТЕМАСе, разам ішлі да мастацкіх вяршыняў.

*Хацелася б верыць і ў вяртанне Іллі Лукомскага (памёр ён ажно ў 1954 годзе) на Беларусь. Захоўваюцца ж карціны нашага земляка ў Траццякоўскай галерэі, у Рускім музеі. Дык чаму б не быць ім у адным з мастацкіх музеяў Беларусі? Прыкладам, у Віцебску ці ў Полацку?..*

*Кастусь ЛАДУЦЬКА*

***Да Вялікай Перамогі***

# З гісторыі атрада

*«Краязнаўчая газета» (№ 22 за чэрвень 2006 года) змясціла фотаздымак памятнага знака «Партизанскому отряду им. М.В. Фрунзе», які ўстаноўлены непадалёк ад пасёлка Аляксандраўка Жлобінскага раёна. Добра, што гэтае месца з'яўляецца адным з самых вядомых на Жлобіншчыне. Тут збіраюцца былыя партызаны, моладзь ускладае кветкі. Але вось у каментарыі да фотаздымка, як і ў гістарычнай літаратуры, пазначана дата стварэння атрада – 25 мая 1943 года. Ці так яно на самой справе? Для ўдакладнення неабходна вярнуцца ў пачатак Вялікай Айчыннай вайны, у 1941 год.*

Перад адыходам часцей Чырвонай Арміі Жлобінскі РК КП(б)Б у Майскім сельсавеце пакінуў падпольную групу на чале са старшынёй калгаса «Расвет» Ф.К. Семчанкам. Гэта рашэнне было памылковым, бо ўсіх іх добра ведалі вяскоўцы, сярод якіх былі розныя людзі. У студзені 1942 года гестапа арыштавала 5 падпольшчыкаў, у тым ліку і Ф.К. Семчанку. Пасля здзекаў іх расстралялі ў Жлобіне 11 лютага. 25 лютага гестапа арыштавала яшчэ 5 падпольшчыкаў. Праз два тыдні з турмы збеглі браты Бобрыкавы, якія стварылі партызанскую групу.

У Майскім сельсавеце дзейнічалі і іншыя падпольныя групы. Адна з іх у вёсцы Шапарня. Арганізатарам яе быў лейтэнант Чырвонай Арміі Уладзімір Паўлаў. У складзе 63-га стралковага корпуса ён удзельнічаў у ліпені 1941 года ў контрудары савецкіх войск у напрамку Бабруйска, цяжкіх баях пад Жлобінам і Рагачовам. Падчас адыходу корпуса на рацэ Дзясна трапіў у палон, потым – у канцлагер горада Пірацін Палтаўскай вобласці. Уначы група ваеннапалонных перарэзала дрот, абясшкодзіла вартавога і апынулася на свабодзе. Ішлі па двое. Паўлаў з таварышамі забілі фашыста, захапілі аўтамашыну. Адзін пераапрануўся ў варожую форму. На аўтамашыне і дабраліся да Жлобінскага раёна. У канцы кастрычніка прыйшлі ў родную вёску Паўлава Шапарню, дзе стварылі падпольную групу. У студзені 1942 года ў яе ўваходзілі Паўлаў (кіраўнік), Шуранкоў, Арыстаў, Раманчыкаў, старшы лейтэнант з 63-га стралковага корпуса Салаўёў.

Увосень Паўлаў даведаўся, што на правабярэжжы Жлобінскага раёна дзейнічаюць партызаны. 22 лістапада каля вёскі Антонаўка Кароткавіцкага сельсавета ён сустрэўся з сакратаром Жлобінскага міжрайкама КП(б)Б, камандзірам атрада «Смерць фашызму» І.А. Крышнёвым, ад якога атрымаў заданне стварыць партызанскі атрад на левабярэжжы раёна, а таксама падпольныя групы ў Майскім і Бабоўскім сельсаветах.

У лютым 1943 года У.Б. Паўлаў са сваёй групай вярнуўся да Шапарні, вывеў падпольшчыкаў, што засталіся, у лес і стварыў атрад, які да канца сакавіка, згодна з успамінамі Уладзіміра Барысавіча, налічваў больш за 200 байцоў. У пачатку сакавіка партызаны Паўлава ўстанавілі цесную сувязь са створаным 265-м атрадам П.П. Рымырава – К.М. Драчова, які ўваходзіў у 10-ю Журавіцкую брыгаду і дзейнічаў на левабярэжжы Рагачоўскага раёна, сумесна праводзілі баявыя аперацыі.

У ноч на 19 красавіка 10-я Журавіцкая брыгада адначасова разграміла 7 гарнізонаў. Атрады 265-ы і Паўлава ліквідавалі варожае гняздо ў Гадзілавічах.

У адказ нямецкае камандаванне кінула супраць брыгады буйную карную сілу – больш за 5 тысяч салдат і афіцэраў з бронемашынамі і артылерыяй. 27 красавіка атрад Паўлава і 265-ы каля вёскі Каменка ўвесь дзень вялі бой з праціўнікам, сярод якіх было 1 500 салдат і афіцэраў з 4 бронемашынамі, 4 танкеткамі і 4 гарматамі. Партызаны далі магчымасць брыгадзе адысці ў Лозаўскі лес Буда-Кашалёўскага раёна і падрыхтаваць абарону. А 29 красавіка партызаны Паўлава сумесна з 10-ай Журавіцкай брыгадай прынялі ўдзел пад Лозавам у адным з буйнейшых баёў з карнікамі на Беларусі.

Пасля Лозаўскага бою асноўнымі сіламі брыгада выйшла за Сож у Чачэрскую партызанскую зону. Атрад У.Б. Паўлава працягваў дзейнічаць на паўночным усходзе ад Жлобіна ў цяжкіх умовах: вялікіх лясоў тут няма, густая сетка дарог, у тым ліку чыгунка Гомель–Жлобін, наяўнасць паліцэйскіх гарнізонаў. У канцы красавіка народныя мсціўцы на станцыі Хальч, адрэзаўшы гарнізон, знішчылі фуражную базу фашыстаў. Прычым, змусілі паліцэйскіх з аховы паліць склады.

Да мая атрад Паўлава дзейнічаў самастойна і сумесна з атрадамі 10-й Журавіцкай брыгады, у якую не ўваходзіў. 25 мая 1943 года па брыгадзе выйшаў загад, які ўключыў партызан Паўлава ў яе склад як 266-ы атрад. 16 ліпеня яму надалі імя М.В. Фрунзе.

Для гітлераўцаў няўлоўны атрад быў як костка ў горле. У канцы мая нямецкае камандаванне правяло супраць партызан сіламі гарнізонаў Жлобіна і Рагачова яшчэ адну карную аперацыю, перад якой ставілася задача прыціснуць 266-ы атрад да Дняпра і знішчыць. Паўлаў вырашыў біць нямецкія групоўкі паасобку, каб не даць ім злучыцца. Каля вёскі Малыя Казловічы народныя мсціўцы ўдарылі па жлобінскай групоўцы з 12 кулямётаў і вінтовак. Пакінуўшы забітых, вораг адступіў і адкрыў па партызанах агонь з мінамётаў. Атрад рушыў у напрамку Хадосавіч, дзе ў лесе ўступіў у бой з рагачоўскай групоўкай. Партызаны адыходзілі ў напрамку Турска. Прыкрываць засталіся дзве групы. У баі загінуў Зінкевіч, змог прарвацца Душынаў.

Лупееў, Круцікаў, Мартынаў адстрэльваліся, пакуль былі патроны. Акружаныя, яны абняліся і падарвалі сябе разам з карнікамі апошняй гранатай. Сваёй смерцю героі далі магчымасць атраду адысці ад Турска, потым уначы па адкрытай мясцовасці выйсці ў буднянскі лес за межы блакады.

Усё лета 266-ы атрад наносіў адчувальныя ўдары па ворагу на чыгунках Жлобін–Гомель, Жлобін–Рагачоў, дарогах Рагачоў–Доўск, Доўск–Гомель, граміў карнікаў у вёсках Дзяніскавічы, Бабоўка. У верасні, паводле загаду штаба брыгады, атрад выйшаў за Сож. Для дыверсій на месцы дыслакацыі засталася група начальніка штаба М.М. Цэлікава. Рота атрада сумесна з іншымі падраздзяленнямі брыгады 2 кастрычніка скінула з вышынь каля вёскі Лазавіца ў Сож батальён немцаў, што прыкрываў адыход сваіх часцей. Неўзабаве падышла 17-я стралковая дывізія Чырвонай Арміі. 4 кастрычніка 1943 года 266-ы атрад імя М.В. Фрунзе быў расфармаваны.

*Уладзімір БУРАЧОНАК*

**Ад аўтара.** *Пры падрыхтоўцы матэрыялу былі выкарыстаны ўспаміны У.Б. Паўлава з фондаў Жлобінскага гісторыка-краязнаўчага музея.*

**Ад рэдакцыі.** *Просім прабачэння ў У. Бурачонка за вымушанае скарачэнне матэрыялу з-за тэхнічных магчымасцей «КГ».*





**З даўніх часоў на рэках ладзілі вадзяныя млыны і малолі зерне.**
**Давайце ўмоўна паплывем па рацэ, пачынаючы ад Прудка...**

# Працавала наша Гаражанка

З назвай гэтага паселішча звязана такая легенда. У аднаго старога чалавека было два сыны. Старэйшы Раман па характары быў зайздросны, прагавіты, хітры. Усю маёмасць бацькі захапіў сабе. Малодшаму Івану – шлях у парабкі. Аднак ён знайшоў скарб. Купіў сабе кавалак зямлі на ўскрайку сяла, ля самай ракі пабудаваў хату. Рака ў тым месцы шырокая, нагадвае сажалку-пруд.

Раман, калі даведаўся пра тое, прыбег да брата:

– Дзе ўзяў грошы? Са старэйшым трэба дзяліцца.

Схапіў брата за каўнер і пачаў яго калашмаціць.

– Не, браток, цяпер я стаў разумнейшы! Няхай ужо табе аднаму будзе бацькаў грудок, а мне – прудок!

Так і пачалі называць суседзі Івана сваё паселішча – Прудок.

Паводле легенды, праправнук Івана (па адных звестках, у канцы XVIII стагоддзя, па іншых – у XIX) пабудаваў у Прудку плаціну і драўляны млын, на якім малолі зерне сяляне з навакольных вёсак.

Паводле архіўных звестак, млын у Прудку яшчэ ў 1930-я гады перамолваў 3 тысячы тон зерня. Але потым быў пабудаваны каменны, хоць абсталяванне засталося ранейшае. Памяць старажылаў захавала імёны апошніх млынароў. Гэта былі аднаркі інвалід Ізафатаў і Антон Нікалаеў.

Некалькі слоў пра тое, як выбраляліся і дастаўляліся жорны. Каменную глыбу намагаліся знайсці непадалёк ад ракі. Майстар аглядваў матэрыял, яго структуру. Потым раскладваў вогнішча пад каменем. Ён награваўся, і каменячос зубіламі, стальнымі клінамі абсякаў яго да патрэбных форм і памераў. Потым жорны грузіліся на плыты і сплаўляліся да млына. Колькі фізічных намаганняў! Запрудзіўшы ваду, чалавек прыводзіў у рух гэтыя жорны. Так з'явіўся вадзяны млын.

Непадалёк ад Прудка, ніжэй па цячэнні, у Гаражанку ўпадае рэчка Верцiя, на якой стаяла вёсачка з такой жа назвай. Быў і вадзяны млын. Але ад гэтай вёскі і млына ў пачатку 30-х гадоў XX стагоддзя не засталося і следу.

Ніжэй па рацэ Гаражанцы, каля Верамееўскага даржніка (жывёльнага двара) быў пабудаваны ільнозавод пасля рэвалюцыі. Выкарыстоўвалася энергія вады ад плаціны. Гэтая энергія прыводзіла ў рух мяльна-трапальны агрэгат. Сушылкі ацяпляліся кастрыцай.

Раней на перасячэнні сучаснай вуліцы Праўды з ракой Гаражанкай знаходзіўся так званы «пасад Аляксеенкі». На крутым узгорку над ракой і цяпер захаваўся драўляны будынак. Насупраць яго, крыху ніжэй, бліжэй да самой ракі, стаіць двухпавярховы будынак колішняга млына з чырвонай цэглы. Матэрыялы нашага краязнаўчага музея і аповеды старажылаў крыху разыходзяцца наконт гэтай пабудовы. Але хоць у адным сыходзяцца: у пасадзе Аляксеенкі да рэвалюцыі пасяліўся прышлы чалавек – латыш Марцін Вендт з сынам. Ён купіў зямлю ў Паташне, а яго сын Аўгуст пабудаваў у пасадзе плаціну і млын у 1909 годзе на рацэ Гаражанцы. Млын размясціўся ў двухпавярховым цагляным будынку. Матэрыялы музея сведчаць, што там былі машынна-электрычнае млынавое і лесапільнае аддзяленні. Дасканалыя на тым часе механізмы дазвалялі малоць зерне і атрымліваць розныя віды круп. У падвальным памяшканні знаходзіліся валюш і фарбавальня. Сам сын жыў у драўляным доме, які захаваўся да сённяшняга часу. Гэта драўляны высокі дом, абкружаны вялікімі ліпамі і дэкаратыўным кустоўем.

У 1911 годзе Аўгуст Вендт на свае сродкі распрацаваў і прапанаваў земству праект рэканструкцыі плаціны праз раку Гаражанку з мэтай яе эфектыўнага выкарыстання для патрэб горада. Пасля нацыяналізацыі сядзібы і млына Аўгуст Вендт, схаваўшы радавыя каштоўнасці на тэрыторыі сваёй сядзібы, таемным чынам знік. Скарб быў знойдзены падчас зносу аднаой са старых пабудоў у 1994 годзе. Каштоўнасці перададзены на захаванне ў Віцебскі краязнаўчы музей.

Старажылы не згодны з былой планіроўкай млына, адмаўляюць і вытворчасць круп, і існаванне ў старым памяшканні валюша і фарбавальні. Кажуць, што для іх было пабудавана спецыяльнае памяшканне пасля Вялікай Айчыннай вайны. І цяпер бачна, што яно адрозніваецца кладкай і колерам цэглы.

А электрастанцыя на рацэ Гаражанцы была пабудавана ніжэй па цячэнні. Арыенцір – Святая крыніца. Абслугоўвалі электрастанцыю (у памяць жыхароў захаваліся імёны) кіраўнік Логвінаў, машыніст Рыгор Даўгалёў, памочнік машыніста Сяргей Іваноў.

Электрычнасць падавалася ў горад для асвятлення райкама, райвыканкама, кінатэатра. Падавалі энергію і да помпавай станцыі.

У 1970-я гады, клапоцячыся пра адпачынак працоўных, райкам і райвыканкам пабудавалі яшчэ адну плаціну. Дзеля гэтага пракапалі, выпрамілі Гаражанку. Зрэзалі ўзгоркі, парушылі покрыва зямлі, змянілі свой выгляд цэнтр горада, былі вывернуты з карэннем старыя ліпы, кустоўе, з'явіліся і скаціліся да ракі старыя камяні. Пабудавалі плаціну, масток. Плаціна падняла ваду, утварыўся вадаём. Народ назваў яго Хлеханаўскім морам (па прозвішчы тагачаснага сакратара райкама). Цяпер плаціна не працуе, знікла мора, але народ любіць на гэтым месцы адпачываць.

За метраў 200 ад моста, уніз па цячэнні, там, дзе знаходзіцца крывы мост (пакута для ўсіх пешаходаў зарэчанскіх вуліц), можна ўбачыць драўляныя рэшткі плаціны. Тут таксама некалі знаходзіўся і млын. На беразе Гаражанкі доўга ляжалі жорны. Пасля Вялікай Айчыннай вайны яны былі адвезены ў Прудоцкі млын.

***Так працавала наша Гаражанка на адлегласці ўсяго 5 кіламетраў, несучы свае воды з вечнасці ў вечнасць.***

**Аліна БАСТАВА,**
**г. Гарадок**



*Яшчэ адна сціплая працаўніца – рэчка Ловаць*




# ...І ён шмат мог і жадаў

***Баляслаў Друцкі-Падбярэскі (нарадзіўся напрыканцы XIX ст.), укладальнік «Падручнага беларуска-польскага слоўніка», не быў філолагам па адукацыі. Працаваў адвакатам у Вільні, затым у Навагрудку. Калі ў Навагрудак прыязджалі з Вільні беларускія паслы (дэпутаты сойму), прымаў іх, спрыяў наладзіць веча, як называлі тады на стары славянскі лад грамадскую сходку, мітынг.***

Друцкі-Падбярэскі да беларускага слова меў дачыненне непасрэднае. Пісаў вершы, меў поцяг да гумару, сатыры і таму больш мілаваў жанр баек. Пераніцоўваў Крылова і іншых славутых байкароў на мову беларускую. У асобных выпадках рабіў гэта даволі ўдала, хоць, па праўдзе кажучы, слова беларускае ўспрыняў на слых ад яго носьбітаў, націскі часам дапускаў адвольныя. Друкаваўся ў заходнебеларускіх перыядычных выданнях (а было іх у Вільні 1920-х гадоў ройна-многа), толькі аднаго, пэўнага напрамку. Напрыклад, у часопісах «Беларускі радны», «Беларуская хата», «Беларуская культура» – органах тых беларускіх палітычных груповак, якія арыентаваліся на Польшчу, спадзяваліся знайсці ў дэмакратычнай частцы польскага грамадства разуменне, спагаду да ідэалаў і пастулатаў беларускай інтэлігенцыі, беларускага народа.

Спадзяванні беларускіх паланофілаў на тое, што, перажыўшы нацыянальную трагедыю, на сто з лішнім год страціўшы дзяржаўнасць і толькі што адбудаваўшы яе, палякі будуць спагаднымі да іншых у іх нацыянальнай ндолі, не спраўдзіліся. У даваеннай Польшчы дзяржаўны рэй вялі эндэкі – людзі эгаістычнай класавай і шавіністычнай свядомасці. Палітычны курс на каланізацыю ды асіміляцыю беларускіх і ўкраінскіх земляў, аддадзеных Польшчы на падставе рыжскіх польска-савецкіх пагадненняў 1921 года, заставаўся нязменным да верасня 1939 года.

Практычна да канца 20-х гадоў мінулага стагоддзя беларускі паланафільскі лагер канчаткова распаўся. Людзі, што мелі праўдападобныя арыентацыі з ідэйных меркаванняў, як, напрыклад, Ф. Умястоўскі, зусім адышлі ад палітыкі і хоць якой беларускай працы. Калі яшчэ хто-небудзь заставаўся ў пастронках ўрадавай калясніцы, то хіба толькі чалавек зусім беспрынцыпны, гатовы працаваць за пахлёбку ўгодніцтва хоць у якасці звычайнага платнага прыслужніка аўтарытарнага, з часу перавароту Пілсудскага, рэжыму.

У 1930-я гады Друцкі-Падбярэскі нідзе не друкаваўся, ні дакога не прымкнуў. Да канца 1920-х аднесціца адзіная яго літаратурная кніжачка «Байкі, гумар, сатыра», выдадзеная Барысам Клецкіным. Літаратурны набытак, як з далечыні сённяшняга дня, – шчыры, але не лішне важкі. А вось лексікаграфічная праца Друцкага-Падбярэскага – шчаслівы, выпрабаваны часам, плён захопленасці гэтым адшчэпам даўно паланізаванага старажытнага беларускага княскага роду беларускай ідэяй, адраджэннем, якія маюць дзейсны працяг у сённяшнім жыцці. Слоўнік беларусаснаўца-самавука Друцкага-Падбярэскага быў навукова-агледжаны, адрэдагаваны чалавекам з універсітэцкай філалагічнай падрыхтоўкай Вінцукам Грышкевічам, у канцы жыцця лідэрам беларускай арганізаванай дыяспары ў свеце. Абодва сааўтары, укладальнік і навуковы рэдактар, засведчылі неблагое веданне слоўнікавага складу беларускай літаратурнай, роднай мовы і адэкватнага семантычнага эквіваленту польскай. Лёс самога укладальніка першага беларускапольскага слоўніка склаўся не лепшым чынам. Апошні раз, паводле слоў старога беларускага журналіста В. Сосенскага, бачылі Б. Друцкага-Падбярэскага на сходзе ў 1939 годзе ў рэдакцыі «Вялейскай праўды». Гэта быў час вялікіх падзей і не меншых драм і трагедый. Вызваліцелі Заходняй Беларусі, нявольныя носьбіты таталітарызму і ахвяры яго, выступалі ў спецыфічнай ролі. Вызваляючы край ад чужой у прынцыпе беларусам польскай аўтарытарнай улады, яны неслі ў яго і няволю новай сістэмы. Друцкі-Падбярэскі, як і Аляксандр Уласаў, знік назаўсёды, калі

*Абодва сааўтары, укладальнік і навуковы рэдактар, засведчылі неблагое веданне слоўнікавага складу беларускай літаратурнай, роднай мовы.*

аднойчы зайшоў у рэдакцыю беларускай адно па назве газеты з надзеяй знайсці разуменне, працу. Знік, зрэшты, як зніклі ў той час у лагерах ГУЛАГу і на турэмных этапах у самым пачатку вайны многія арыштаваныя беларускія інтэлігенты і сяляне.

*А што да названага слоўніка, то яго варта было б перавыдаць.*

*Арсень ЛІС*







# 2007: Год Слова Купалы і Коласа



(Працяг. Пачатак у №№ 3–17)

«...Мы позволили себе только высказаться за сохранностью чистоты особенностей белорусского говора и тем более в поэзии, как переживающей в народе более долгие, чем проза, годы.

Таким классическим образом служит стихотворение Янки Купалы "Соха" (стр. 12).

Надо быть не только знатоком белорусского наречия, но и даровитым поэтом, чтобы при сочетании слов этого топорного (да простят мне белорусы!) языка явилось вполне лирическое стихотворение.

Таких стихотворений в "Жалейке" читатель найдет не мало».

Як кажуць, без далейшых падрабязных каментарыяў, бо і Ядвігін Ш. як празаік, публіцыст і перакладчык варты шаноўнага слова. Тое, што напісаў ён тады пра Я. Купалу, няхай застанецца на яго сумленні.

Летам таго года асабіста незнаёмы з Я. Купалам, але аднадумец па яго творчасці Я. Колас, які рыхтуе сябе для суда і турмы за ўдзел у настаўніцкім з'ездзе 1906 года, дзеля высакароднай мэты прапаганды творчасці калегі, для «Нашай Нівы» перакладае на беларускую мову рэцэнзію У. Самойлы на зборнік «Жалейка». Зборніку даецца не проста станоўчая, а справядліва высокая ацэнка.

### Уладзімір Самойла[1]. Великий праздник. «Жалейка» Янука Купалы

*Гэта крык,*
*што жыве Беларусь!*

На улице Молодой Белоруссии великий праздник! Солнце живой настоящей поэзии заглянуло в оконце темной, бедной, но великой хаты белорусского народа!

Звуки родной «Жалейки» (свирель), проникнутые истинной человечностью, живой любовью и жалостью к родному белорусскому миру, вырвались из народного сердца – из уст национального поэта, отныне стали национальным сокровищем для белоруса, стали могучим рычагом для его умственного и нравственного развития.

[...] Теперь зазвучал самостоятельно и властно собственный голос печальника-народа со всеми его великими страданиями, со всеми малыми радостями, со всей могучей, только что пробудившейся верой в свою будущую долю, в свое право на жизнь, на волю, на счастье! Те, кто раньше сомневался, сам ли белорусский народ хочет своей белорусской доли, своего белорусского счастья, – теперь должны признать, что этот голос настоящий, неподдельный, выходящий из самой глубины народной Души. «Гэта крык, што жыве Беларусь!» Он должен признать, что теперь белорусы сами за себя «нясуць сваю крыўду на свет цэлы», что они «агромністай грамадой», восемь миллионов, сами захотели «людзьмі звацца»...

И тот, кто хочет, чтобы народ действительно жил и развивался, рос и богател духовно, а не только исполнял разные казенные и панские повинности, должен всеми силами способствовать распространению этой небольшой книжки, которой предстоит большая будущность.

[1] Самойла Уладзімір Іванавіч (1878 – пасля 1940) – беларускі публіцыст і крытык, пры яго дапамозе надрукаваны верш Я. Купалы «Мужык» і выдадзены першы зборнік «Жалейка».

## Стукі-стук, малаток...

Дзень адзінаццатага траўня 1907 года стаў для Янкі Купалы незабыўны. У гэты час «Наша Ніва» надрукавала ягоны слынны верш «Касец». Гэта была першая Купалава вершаваная публікацыя ў беларускамоўным друку ў першай беларускамоўнай газеце[1]. Для Янкі Купалы і для ўсёй Беларусі гэта была вялікая падзея. Ягоны верш «Касец» з першага погляду мог уявіцца неспакушанаму чытачу праставатым. Але ці такі ён?

*Стукі-стук, малаток,*
*Кляпі коску, мужычок!*

Такі пачатак верша і, напраўду, нібы дзіцячая рытмічная забаўлянка. Неспакушаны чытач па назве і першай страфе мог падумаць, што пясняр Янук Купала (менавіта з такім псеўданімам надрукаваны ў «Нашай Ніве» Купалаў верш «Касец») натхняе касцоў на касавіцу.

Але вось пасля слоў: «Я вам песеньку спяю» – верш загучаў трывожна, ваяўніча, з напамінам, што «даўней народ быў хітры». «Даўней» – гэта калі? Ды ў 1863 годзе, тады, калі «коскі шаблямі былі, ваяваць з імі ішлі». От вам і стукі-стук, малаток.

У гэтым бунтоўным вершы ўжо закладзена аснова Купалавага маніфестычнага верша «А хто там ідзе?» З Купалавым разуменнем «грамады»:

*Грамада –*
*вялікі гмах:*
*Адзін ляжа – сто ідзе,*
*Бо хто ж роўны грамадзе?*
*. . . . . . . . . . . . . .*
*Пяюць птушкі пад вакном*
*Лепшай долі даўно ждзём –*
*Годзе коску ўжо кляпаць,*
*Час з калодкі нам уставаць!*

Як не дзіўна, публікацыя гэтага верша – і аўтару, і самой «Нашай Ніве» – выйшла без скандалу. Мо не зразумелі? Але цяжка не зразумець:

*Дык і ты касу астры*
*І так скора раз-два-тры*
*Ідзі з ёю на вайну...*
*На вайну з травою ідзі,*
*Касі нізенька, глядзі:*
*Пяруны, грымоты б'юць,*
*Ты касі, адважны будзь!*
*. . . . . . . . . . . . . .*
*Смерць таму, хто не зышоў,*
*Касой рэзалі ўрагоў...*


№ 115
ДѢЛО
С.-ПЕТЕРБУРГСКАГО КОМИТЕТА
по дѣламъ печати.
190 г.
Началось 14 Октября 190 года.

Вокладка цэнзурнай справы аб забароне «Жалейкі»

Падчас гэтай публікацыі Янку Купалу было дваццаць пяць... На гэтую часіну ў ім была ўжо магутная паэтычная энергія, здатная да глыбокіх паэтычных абагульненняў, пра што якраз і сведчыць цытаваны тут першы Купалаўскі нашаніўскі верш «Касец» з яго забаўляльна-рытмічным гульнявым пачаткам:

*Стукі-стук,*
*малаток,*
*Кляпі коску,*
*мужычок!*

**Уладзімір СОДАЛЬ**

[1]Напомнім чытачу, што Я. Купала пачаў друкавацца з 1905 года.

## Год – коласаўскі

***У сувязі з 125-й гадавінай з дня нараджэння Якуба Коласа і Янкі Купалы ў школах Пухавіччыны пашырылася работа па ўшанаванні памяці пра класікаў айчыннай літаратуры. Вучні Талькаўскай СШ, прыкладам, сабралі каштоўныя матэрыялы аб летаванні Я. Коласа ў 1933–1934 гадах у вёсцы Талька ў сям'і Яўсейчыка. Матэрыялы гэтыя сталіся асновай праведзенай літаратурна-музычнай вечарыны. Дарэчы, да ўдзелу ў ёй запрасілі пісьменніка Браніслава Зубкоўскага, які шмат гадоў даследуе повязь Коласа з Пухавіччынай.***

А ў СШ № 1 Мар'інай Горкі настаўнік гісторыі Барыс Муха наладзіў сустрэчу з мастаком і паэтам Лявонам Дубоўскім, які ў многіх работах адлюстраваў блізкія Я. Коласу пухавіцкія вёсачкі Балачанка і Падбярэжжа.

Коласаўская тэматыка была і ў цэнтры ўвагі пад час правядзення сустрэчы ў абласным дзіцячым санаторыі «Пухавічы», які размешчаны ў Мар'інай Горцы. Да Вялікай Айчыннай вайны на тэрыторыі цяперашняга санаторыя знаходзіўся Дом творчасці пісьменнікаў «Пухавічы». На сустрэчу з дзецьмі прыйшлі дырэктар раённага краязнаўчага музея А. Прановіч, пісьменнік Б. Зубкоўскі. З цікавасцю разглядалі школьнікі фотастэнды з матэрыяламі пра жыццё і творчасць Якуба Коласа. Між іншым, аўтар многіх фотаздымкаў – сын паэта вучоны Міхась Канстанцінавіч Міцкевіч, які добра сябруе з Пухавіччынай, з'яўляецца ганаровым грамадзянінам горада Мар'іна Горка.



Якуб Колас на калгасным полі (1952 г.)

**Кастусь ЛЕШНІЦА**

(Працяг. Пачатак у №№ 3–17)

Хіба можна тут адмовіць паэту, які знаходзіўся пад следствам, у мужнасці? Хіба не даваў ён суайчыннікам прыкладаў для цвярозага ўспрыняцця рэчаіснасці, смеласці і актыўнай дзейнасці?

Да зняволення Я. Колас паспеў напісаць некалькі апавяданняў, шэраг публіцыстычных нататак з разнастайнага жыцця роднай вёскі Мікалаеўшчына і мястэчка Бяларучы, якія змясціў у «Нашай Ніве». Праўда, іх друкаваў пад псеўданімам (Дзядзька Карусь, Стары шут, Мікалаевец, Свой чалавек, Адзінокі і інш.). Сярод гэтых, у некаторай ступені этнаграфічных матэрыялаў рэзка выдзяляецца публікацыя «Беларуская мова ў казённай школе».

«– Чаму вы, беларусы, так скора адракаецеся ад свайго народа?» – пытаў у мяне калісь-та мой стары вучыцель. Я не ведаў, што сказаць на гэта. Толькі я стаў думаць, – і праўда, мы цураемся свайго роднага народа, – скрушліва пісаў Дзядзька Карусь. – ... Цяпер, як беларусам далі права гаварыць і пісаць на сваёй мове і як паявілася першае беларускае пісанае слова, багата знайшлося праціўнікаў беларускай мовы... Не, галубочкі! Не беларуская мова рэжа вам вушы, скрадзе душу, а рэжа вам вушы і скрабуць вашу душу тыя далёкія ўспамінанні смеху над вамі... Як беларуса ні гналі, як яго ні душылі, як ні тапталі яго ў балота, усё ж такі ён захаваў сваю мову. І вы адбіраеце права ў беларуса чытаць кніжкі і газеты на роднай мове; і гэтае права адбіраюць тыя, хто быццам стаіць за свабоду народа!» У канцы артыкула, звяртаючыся да суайчыннікаў, дадае: «Нестае яшчэ толькі таго, каб паехалі вы ў Вільню і сталі там на калені прад адным памятнікам...» А «адным памятнікам» там быў помнік Мураўёву!..

Знаходзячыся ў зняволенні, Я. Колас працягвае пісаць вершы, шукае самыя розныя каналы, каб перадаць іх на волю (адгадаваў бараду, у валоссі якой часамі хаваў невялікія паперчыны з вершамі альбо з рыфмамі для новых вершаў). Працуе ў знаёмым рэчышчы: «вобразы мілага краю», людская гаротнасць і безвыходнасць, сум па сваіх маладых сілах, што марнуюцца ў астрогу.

1909. У Пецярбургу суполкі «Загляне сонца і ў наша ваконца» і «Наша хата» выдаюць «Другое чытанне для дзяцей беларусаў» Я. Коласа.

1910. Да лістапада. Пабачыў свет яго зборнік вершаў «Песня жальбы» (Вільня).

7 лістапада М. Горкі, азнаёміўшыся з першымі кнігамі Я. Купалы і Я. Коласа (мабыць, праз бацьку М. Багдановіча: адзін час яны былі жанатыя з сёстрамі), у лісце да М. Кацюбінскага (1864–1913, украінскі пісьменнік) дае высокую ацэнку беларускім паэтам. М. Горкі яшчэ неаднаразова будзе звяртацца да іхняй творчасці і ўхваляць яе.

1911. Творчасць Я. Коласа станоўча ацэньваецца ў часопісе «Вестник Европы», дзе лічылі за гонар надрукавацца многія вядомыя рускія пісьменнікі.

Сакавік-май. Згодна даследавання некаторых літаратуразнаўцаў, менавіта ў гэты час Я. Колас задумвае напісанне паэмы «Новая зямля», а да 11 верасня мае ўжо некалькі напісаных раздзелаў з яе.

11 альбо 15 верасня пакідае ненавісны астрог. Паміж 11–19 верасня наведвае Вільню. Па люты 1912-га жыве ў Лунінцы, у сябра В. Філіповіча. Там навучае дзяцей чыгуначнікаў на платнай аснове. Там жа задумвае паэму «Сымон-музыка», працягвае працу над раманам у вершах «Новая зямля».

*Старонку вядзе пісьменнік Генрых ДАЛІДОВІЧ*

(Працяг. Пачатак на стар. 1)



# Па старым гасцінцы – да Купалы

## «Абапал высяцца прысады...»

Ад дакладней высіліся. Цяпер уздоўж старога Даўгінаўскага тракту, што звілістай шэрай стужкай імкліва выбягае з Мінска, ужо амаль няма тых дрэў, якім, па словах паэта, «пэўне, па сто год». Тых волатаў, якія помняць шлях даўнейшым, колішнім, з вясковым і местачковым людам, з сялянскім вазамі, шляхецкімі брычкамі, панскімі карэтамі.

Гудзіць-шуміць гасцінец, як і раней. Толькі цяпер гул-шум іншы. Нясуцца аўтамашыны, некуды спяшаюцца. Няма ім часу прыпыніцца, паслухаць шапаценне лістоты старых дрэў – цікавы аповед пра мінулае, пра знакамітых людзей, чыё жыццё было звязана з гэтай дарогай.

Напрыклад, пра Уладзіміра Самойлу, вядомага публіцыста, які жыў у фальварку Казіміраўка. Пра сябра Купалы Змітрака Бядулю, які нарадзіўся ў мястэчку Пасадзец. Пра хутар Кур'янаўшчына, што пад Даўгінавым, – радзіму вядомага драматурга і паэта Леапольда Родзевіча.

Дубаўляны, Паперня, Лускава... Справа ад дарогі вёска Жукаўка. Тут на плошчы каля царквы, помніка народнага дойлідства (пабудаванага ў 1894 годзе, потым разбуранага, адноўленага ў 1992-м), калісьці праводзіліся кірмашы. Любіў іх наведваць Іван Луцэвіч. У 1911 годзе разам з Антонам Грыневічам ён слухаў і запісваў апавяданні, гаворку падарожных. Непадалёк ад Жукаўкі ў засценку Здарэнне знаходзілася карчма. У ёй таксама сабрана нямала фальклору. Не дзіўна, што адзін з ранніх псеўданімаў Янкі Купалы – Здарэнец.

## «Усе звалі яго Дуб-Дзядуля...»

Прыкладна за кіламетр ад вёскі Карпілаўка аўтобус прыпыніўся каля невялікага поля. Старыя дубы і ліпы, якія раслі непадалёк, сведчылі пра тое, што некалі на гэтым месцы знаходзілася сядзіба.

– Калі ласка, праходзьце, – пачуўся раптоўна голас. – Тут калісьці была сядзіба майго добрага знаёмага Антона Лявіцкага. Дарэчы, дзякуючы яму, я пачаў пісаць па-беларуску. Ідзіце сюды.

Перабраўшыся праз паваленае дрэва, мы, група вандроўнікаў, падышлі да вялікіх заімшэлых камянёў.

– А цяпер дакраніцеся да іх. Можа, адчуеце і зразумееце, з якімі цяжкасцямі яны былі перавезены з поля, а потым старанна складзены Антонам Іванавічам.

Фальварак Карпілаўка з'яўляўся калісьці ўласнасцю рода Лявіцкіх. Менавіта тут у 1912 годзе Янка Купала чытаў толькі што напісаную ім «Паўлінку». Пасля смерці бацькі, адстаўнога паручніка Івана Лявіцкага, Ядзвігін Ш. становіцца гаспадаром Карпілаўкі. У 1897 годзе адбудоўвае новы дом. Драўляны, на сем пакояў, з верандай і мезанінам, ён знаходзіўся ў самым цэнтры парку. Вакол рос вялікі сад, абсаджаны экзатычнымі дрэвамі: напрыклад, канадскімі клёнамі, срабрыстымі таполямі, лістоўніцамі. Вось што ўспамінае сам гаспадар: «Амаль не ўся вёска зайздросціла мне, майму надзелу. Шнур быў, праўду кажучы, ані большы, ані меншы, ані выгаднейшы, ані зямліца на ім лепшая, – можа, нават, горшая, – бо пры канцы шнура была страшэнная гара, дзе апрэм грэчкі-ядрыцы нічога не радзіла, але на самым версе гары рос такі дуб, што аж дзівіўся народ: веліч, таўсціня, а сукі так разрасліся, што, здавалася, свет бы пад сябе хацеў падгарнуць. З давён-даўна ўсе звалі яго Дуб-Дзядуля...»

З тых часоў захавалася частка ліпавай алеі, што ахінала сад, ды некалькі дубоў. Адзін з іх амаль дакладна адпавядае апісанню Антона Лявіцкага. Толькі расце крыху ў іншым месцы. Відаць, унук альбо сын таго «дзядулі»... Гара і цяпер ўзносіцца над колішнім фальваркам. Ды расце на ёй ужо не грэчка-ядрыца, а дрэвы. І памеры меншыя. У 1990-х гадах адзін гора-чыноўнік загадаў раскапаць гару, выбраць пясок і выкарыстаць для будаўніцтва дарогі. Цяпер на месцы раскопу – сметнік. А яшчэ каля гары – дзот, напамін пра тыя часы, калі Беларусь была падзелена на Заходнюю і Усходнюю.

З 1909 года Лявіцкія і Луцэвічы былі суседзямі. Маці Янкі Купалы Бянігна Іванаўна амаль 20 гадоў (да 1929 года) арандавала хутар Акопы ў памешчыцы Жалігоўскай.

## «Хадзіце ў госці хутчэй!»

Лясная дарога раптоўна прывяла да вялікай паляны. Менавіта тут і знаходзіўся хутар. Пра гэта не цяжка здагадацца. Месца абнесена агароджай, а перад уваходам да колішняй сядзібы – прыгожая брама, дзе пазначана: «Акопы».

У савецкія часы афіцыйна пра Акопы не надта любілі ўзгадваць. Усё ж такі хутар, сям'я трымалася амаль што кулацкага ладу жыцця. Аднак за два месяцы 1911 года, сярод маляўнічасці краявідаў гэтага куточку Лагойшчыны, Купала напісаў каля 50 вершаў. Пазней – «Тутэйшыя», «Паўлінку», «Прымакі», «Бандароўну», «Магілу льва», «Яна і я», пераклаў «Слова пра паход Ігаравы». Асабліва варта адзначыць драму «Раскіданае гняздо». У 1929 годзе, калі праводзілася палітыка раскулачвання і калектывізацыі, сям'я Луцэвічаў назаўсёды пакінула хутар. Акопы ператварыліся ў своеасаблівае «раскіданае гняздо».

Па мастку праз невялікі ручай мы падышлі да сівога валуна, які паважна разлёгся на ўзгорку сярод поля. У 1982 годзе на камені была ўсталявана шыльдачка са словамі-аўтографам Купалы:

*...Песню стварыці ясну,*
*як неба,*
*Ў кожнай з ёй хаце быць*
*мілым гасцём –*
*Гэтакіх толькі скарбаў*
*мне трэба,*
*Гэткім я толькі жыву*
*пачуццём...*

Добра пабыць каля заімшэлага валуна ў адзіноце. Удумацца ў сэнс слоў Паэта-Прарока...

Непадалёк ад Акопаў у вёсцы Харужанцы, якая некалі славілася пакроўскімі кірмашамі, 29 жніўня 1992 года, у 110-гадавіну нараджэння паэта, быў адкрыты філіял музея Янкі Купалы. Дзякуючы, у першую чаргу, намаганням Ніла Сымонавіча Гілевіча, ураджэнца Лагойшчыны.

По дарозе да хаты-музея сустракае вялікі валун. На ім такія словы:

*К табе,*
*о Божа,*
*І я ў дзень*
*гэты просьбу*
*шлю:*
*Хай Беларусь,*
*мая старонка,*
*Уваскрэсне*
*к вольнаму*
*жыццю!*

Гэтак паэт нябачна павітаў сваіх гасцей.

Крыху далей – помнік песняру. Генадзь Мурамцаў і Андрэй Заспіцкі імкнуліся перадаць бунтарскі дух Купалы. І ў іх гэта цудоўна атрымалася.


Плюскоча з каменняў крыніца

Далей паэт запрашае нас наведаць хату-музей.

– Першая зала «На скрыжаваннях жыцця» гаворыць вам пра маё дзяцінства ў Вязынцы, Юзафова, Косінцы. На гэтым фотаздымку я ў 6-гадовым узросце. А вось мая маці. Гэта сёстры Ганна, Марыя, Леакадзія. У 1891–1895 гадах наша сям'я жыла ў Прудзішчах. Там бацька арандаваў у памешчыка Шаброўскага фальварак. Тут нарадзіліся мае сёстры Гэля ды Сабіна, а таксама брат Казік. На жаль, іх фотаздымкі не захаваліся. Потым мы жылі ў Селішчы. О, колькі давялося тут папрацаваць на зямлі! А вучыцца я пачаў восенню 1897 года у 2-класнай народнай вучэльні ў Бяларучах. Ну, а што было далей, глядзіце самі. Экспанаты вам пра гэта добра раскажуць...

Праходзьце-праходзьце! Гэта другая зала. «Песні беларускай уладар», – працягвае сваю незвычайную экскурсію Купала. – Нічога, добрая назва... Яшчэ не забылі Акопы? Дык вось, тут расказваецца, як там жыла наша сям'я, як пісаў я свае вершы, паэмы.


Сын ці ўнук «Дзядулі-Дуба»

А трэцяя зала раскажа вам пра напісанне мною паэмы «Раскіданае гняздо»..., – з непрыхаваным сумам гаворыць паэт. Пасля невялікай паузы ён працягвае: – Вось гэта мае рукапісы. Ну, а то здымкі бацькоў. А цяпер ідзіце сюды...

Асабліва цікавым для нас была «Тэатральная» зала, дзе на імправізаванай сцэне, дзякуючы цікава зробленай экспазіцыі, нібыта з'яўляліся героі «Паўлінкі», «Тутэйшых».

Каля хаты-музея знаходзяцца розныя гаспадарчыя пабудовы.

– Вось клець, а гэта пограб. А тут была лядоўня, – расказвае пясняр. – Прайдзіце далей, там пабачыце крыніцу.

*Коціцца, ўецца далінкай*
*крыніца,*
*Б'ецца, плюскоча ў каменнях*
*вадзіца.*

Раптоўна дэкламуе Купала. І працягвае:

*Я ад вас далёка...*
*Дзеліць нас паўсвета, –*
*А жыву я з вамі і зіму і лета;*
*...З выраю ж як толькі*
*сустрачаю гусі,*
*Весці ў іх пытаю*
*з роднай Беларусі.*

– Дзякуй Вам, Іван Дамінікавіч, за цікавы аповед.

– І вам дзякуй, што завіталі ў госці. Прыязджайце яшчэ.


Паважна разлёгся сівы валун

***Узгорак за ўзгоркам ды бясконцыя далягляды са смугою і сінечай лясоў... Непаўторная прыгажосць Лагойскага і Мінскага краю ласкава развітвалася з удзельнікамі вандроўкі.***

***Ігар ГРЭЧКА,***
***фота аўтара***

**P.S.** ***Шчыры дзякуй Мікалаю Арсенцьевічу Чырскаму, старшыні грамадскага аб'яднання «Беларуская асацыяцыя экскурсаводаў і гідаў-перакладчыкаў», за вельмі цікавую экскурсію***





# Першы легальны беларускі з'езд

***(Заканчэнне. Пачатак у № 17)***

Мінскі камітэт БСГ пачынае энергічную дзейнасць па скліканні ў горадзе з'езда беларускіх дзеячаў. У савецкі час беспярэчным ацэншчыкам падзей 1917 года ў Мінску і на Беларусі ўвогуле быў акадэмік І. Ігнаценка. Дык вось у кнізе «Февральская буржуазно-демократическая революция в Белоруссии» (Мн., 1986) раздзел, прысвечаны з'езду, пра які гаворка будзе далей, назваў катэгарычна: «Националистическая буржуазия рвется к руководству национальным движением». Яго Вялікасць Факт сведчыў, што не шмат буржуазіі ў Мінску і ўвогуле ў Беларусі абцяжарвала сябе такой з'явай, як нацыяналізм, а па-другое, на першы беларускі з'езд сабраліся далёка не заможнікі.

Трэба аддаць належнае арганізатарам: ужо 7 красавіка 1917 года (па новым стылі) ў Мінск упершыню легальна, з мандатамі ў кішэні прыбыло 150 дэлегатаў самых розных палітычных поглядаў. На з'езд, як і належыць правілам дэмакратыі, былі запрошаныя прадстаўнікі ўсіх тутэйшых улад і партый, у тым ліку і старшыня Мінскага Савета Б. Позерн (ад удзелу ў з'ездзе ён ухіліўся, прыслаў замест сябе неўплывовага назіральнага). На вялікі жаль, услед за даследчыкамі і я ў свой час у рамане «Пабуджаныя» напісаў, што старшынёй з'езда абралі беларускага пісьменніка К. Каганца (Кастравіцкага). Так, застаршынстваваў Кастравіцкі, але не Карусь, а іншы, юрыст. Функцыі намеснікаў пачалі спаўняць прадстаўнік новай улады – памочнік мінскага губернскага камісара Метліна і беларускі дзеяч П. Аляксюк. З'езд павіталі тэлеграмамі нацыянальны суполкі Украіны і Літвы, а выступленнямі – мінскі старшыня камітэта прапаганды асноў новага грамадзянскага ладу, ад гуртка беларусаў з Магілёва, ад чыгуначнікаў і паштовых служачых-беларусаў Петраграда і інш.

Зацвердзілі парадак дня: адносіны да бягучага моманту, адносіны да расійскіх і нацыянальных сацыялістычнай партый, арганізацыйныя пытанні. Як бачым, парадак дня даволі нейтральны, нічога буржуазнага і нацыяналістычнага тут не відно. Такое ж было і ў дакладах пра становішча ў Беларусі Ус. Фальскага (беларускі акцёр, тэатральны і грамадскі дзеяч) і іншых. З іх, напрыклад, А. Смоліч толькі падкрэсліў вялікую ролю БСГ у справе абароны класавых інтарэсаў беднаты, а прадстаўнік Мінскага Савета заклікаў з'езд падбаць і пра салдат, што «гніюць у акопах».

Пасля спакойнага першага пасяджэння, калі зацвердзілі тэксты прывітальных тэлеграм Часоваму ўраду, Петраградскаму Савету, нацыянальным суполкам Украіны і Літвы, спакой узарваў памочнік мінскага губернскага камісара і эсэр, які выступіў ад імя Часовага ўрада. Ён настойваў, каб не вылучаць беларускае пытанне, якому ў прынцыпе адмаўляў нават у праве яго пастаноўкі. Многія дэлегаты абурыліся: гэта – сумнай памяці нафталіннае, рэакцыйнае выступленне чарнасоценца! Прадстаўнік БСГ з Кіева сказаў, што, наадварот, іменна цяпер, калі засвяцілі праменні волі і дэмакратыі, трэба засяродзіцца на паняццях «нацыя» і «федэрацыя», каб падумаць пра далейшы лёс народаў Расійскай імперыі. Заўзяты шавініст-выступоўца ў знак пратэсту адмовіўся выконваць абавязкі намесніка старшыні з'езда; дэлегаты А. Бурбіс, Б. Тарашкевіч (беларускі мовазнавец, публіцыст, перакладчык, грамадскі дзеяч) запатрабавалі, каб ён з такімі застарэлымі поглядамі ўвогуле пакінуў беларускі сход; з гэтым не згадзіліся некаторыя «беларусы з расійскай мовай». Гэта адзначыў дэлегат з'езда, пісьменнік, грамадскі дзеяч, член РСДРП з 1904-га і ўдзельнік рэвалюцыі 1905–1907 гадоў Зм. Жылуновіч (Ц. Гартны), які пазней стане першым старшынёй урада БССР, а ў 1931-м будзе выключаны з шэрагаў ВКП(б), як напіша І. Ігнаценка, «за ошибки националистического характера в творчестве и общественной деятельности», праўда, не дадасць, што той беспамылковым сталінскім рэжымам будзе дзіка закатаваны ў 1937-м.

На з'ездзе ж адбылося тое, на што, мусіць, няма яснага тлумачэння і сёння: вышэйназваны Кастравіцкі адмовіўся ад старшынёўства. Замест яго абралі Р. Скірмунта (члена І Дзяржаўнай думы, члена Дзяржаўнага савета Расіі, буйнога землеўладальніка, які абяцаў перадаць сваю зямлю сялянам бясплатна). Дэлегатаў, канечне, у сувязі з гэтым падкупіла тое, што іхні старшыня – чалавек вопытны, добра знаёмы з дзяржаўнымі справамі, па палітычных поглядах аўтанаміст і прыхільнік справядлівага вырашэння сялянскага пытання. Так ва ўсякім разе мне тлумачыла сведка тых бурлівых падзей і сакратар Усебеларускага з'езда ў снежні 1917-га З. Верас, якая выжыла, канечне ж, таму, што ўстрымалася пасля Рыжскага міру 1921 года пераехаць у БССР...

Пасля вышэйзгаданай перапалкі абралі сем камісій з'езда – агітацыйна-палітычную, арганізацыйную, этнаграфічную, школьную, фінансавую, друку і земскую.

На другі дзень дэлегаты заслухалі даклады камісій. Было прапанавана пачаць выданне беларускіх газет, брашур і кніг, стварыць беларускі банк, земскае кіраванне і суполкі разнастайных кааператываў, наладзіць выкладанне ў пачатковай школе беларускай мовы і выданне для гэтых мэт неабходных падручнікаў, арганізаваць адпаведныя курсы для настаўнікаў, а ў хуткім будучым адкрыць беларускі універсітэт. З палітычных задач была вылучаная ідэя атрымання для Беларусі аўтаноміі ў складзе дэмакратычнай Расіі, з'езд прызнаваў правы ўсіх нацыянальнасцей на свабоднае культурнае развіццё і рэлігійнае спавяданне, выказаўся за хутчэйшае заканчэнне вайны на аснове неадкладнага міру і адмовы ад кантрыбуцый, прыняў дэкларацыю, у якой вітаў Лютаўскую рэвалюцыю, заклікаў Часовы ўрад прызнаць аўтаномію Беларусі, не дапусціць нават тэндэнцыі, каб Беларусь магла быць далучаная да Польшчы, чаго жадалі польскія нацыяналісты, трактуючы былую Рэч Паспалітую не як саюзную дзяржаву, а як цэласную Польшчу. Быў абраны БНК – Беларускі нацыянальны камітэт з 18 асоб, сярод якіх былі такія вядомыя беларускія дзеячы, як А. Смоліч, Ус. Фальскі, Б. Тарашкевіч, Ф. Шантыр, Зм. Жылуновіч і іншыя на чале з Р. Скірмунтам. Таксама была зацверджаная дэлегацыя з сямі асоб для паездкі ў Петраград на перамовы з Часовым урадам па беларускім пытанні.



Аркадзь Смоліч



Алесь Бурбіс



Раман Скірмунт

Беларускую дэлегацыю ў Часовым урадзе сустрэлі на ніжэйшым узроўні і з халодным здзіўленнем: «І вы, беларусы, хочаце сваёй дзяржаўнасці?» «Бальшавікі Беларусі», убачыўшы, што іхнюю дзейнасць і памкненне да ўлады над краем не зусім прызнаў мясцовы беларускі з'езд, адразу ж разгарнулі раз'юшаную кампанію супраць яго і ягоных ідэй. Найперш скарысталі той козыр, што на чале БНК апынуўся памешчык: «помещичья интрига», «польские происки» і г.д. Трэба аддаць і яшчэ раз належнае: бальшавікі выдатна ўмелі карыстацца дэмагогіяй і кампраматам, белае паказваць чорным і наадварот. Зрэшты, пазней і Зм. Жылуновіч ва ўспамінах пра той час напіша, што яны, дэлегаты першага беларускага з'езда, не зусім абачліва абралі на чале БНК Р. Скірмунта, самі далі падставу ганьбаваць сваю высакародную ідэю. Многія беларускія савецкія гісторыкі з задавальненнем пацяшаліся, што БНК і яго паслядоўнікі не дасягнулі сваіх мэт, былі фантазёрамі, захварэлі «буржуазным нацыяналізмам», «ненавісцю да савецкай улады з яе светлымі ідэямі, шчасця роднага народа...» Жаданне ўсяго толькі аўтаноміі ў складзе дэмакратычнай Расіі – ужо грэх з грахоў!!!

Не, гэта зусім не смешна. Неўзабаве пасля першага беларускага з'езда Міхайлаў-Фрунзе арганізуе першы сялянскі з'езд Мінскай і Віленскай губерній, узначаліць яго і наладзіць шальмаванне ідэй БНК, адмову сялянскага сходу ад выкарыстання беларускай мовы ў школе і інш. Зразумела, БНК не мог выслухоўваць фальш і гнюснасць спакойна і заявіў: Міхайлаў-Фрунзе – зусім не рэвалюцыйны дэмакрат, не сябра і абаронца прыгнечаных народаў, а шавініст, дэмагог і падманшчык. Яго паклікалі на трацейскі суд, які той (Фрунзе), маючы ў руках мінскую міліцыю, з усмешкай праігнараваў. На майскім Усерасійскім сялянскім з'ездзе ў Петраградзе Міхайлаў-Фрунзе выступіў ад імя... беларускіх сялян. За адну з яго рэзалюцый у бальшавіцкім духу (Ленін, вярнуўшыся ў красавіку ў Расію, пачаў паварочваць рэвалюцыйны працэс на захоп бальшавікамі ўсёй улады) галасавала «за» 17 дэлегатаў, а «супраць» – 800. Сялянскай Беларусі была дадзена звонкая аплявуха за тое, што яна дазваляе свой лёс неабачліва ўручаць розным выпадковым для яе палітыканам.

**ТАВАРЫШЫ І ГРАМАДЗЯНЕ!**

*Лістоўка аб стварэнні ў Мінску Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1919 г.)*

**БЕЛАРУСКІ НАРОДЗЕ!**

БЕЛАРУСКАЯ ВАЙСКОВАЯ КАМІСІЯ.

*Адозва Беларускай вайсковай камісіі (1920 г.)*

***...Толькі ў 1995 годзе ў энцыклапедычным даведніку «Беларусь» першаму легальнаму і легітымнаму беларускаму з'езду, як і іншым нацыянальным форумам 1917–1918 гадоў, была дадзена спакойная, без ілжы і абраз справядлівая ацэнка з прызнаннем таго, што той з'езд меў становчае значэнне для фармавання і сцвярджэння беларускай нацыянальнай свядомасці, інтарэсаў шырокіх народных мас, якія былі спакутаваныя без свайго Дому ў шырокім сэнсе гэтага слова. Больш – сёння, як ніколі, фактычна відно: каб не было таго з'езда, а за ім і наступных лёсавызначальных вялікіх сходаў, якія праводзілі лепшыя сыны нашага народа, то, няма ніякага сумнення, і не было б нават гутаркі пра нашу Беларусь як самастойную дзяржаву.***

***Генрых ДАЛІДОВІЧ***





*По першы мёд*

*Фота Уладзіміра ПУЧЫНСКАГА*



# Край Мёрскі, край Наддзвінскі

***Уздоўж***

**6**. Прадпрыемства ў г. Дзісне, якое займаецца лесааднаўленнем, доглядам лясоў у Мёрскім, Шаркаўшчынскім і Глыбоцкім раёнах. **7**. Назва драўлянай сцяны з вежамі, якой у старажытнасці была агароджаная Дзісна ад нападу ворагаў. **9**. Вядомы военачальнік, камкор, з імем якога звязана вызваленне Мёршчыны ад белапалякаў. Рэпрэсаваны ў 1935 г., расстраляны. Рэабілітаваны пасмяротна. **11**. ... мохавы. Насякомае сямейства пчаліных. Сустракаецца на Мёршчыне. Занесены ў Чырвоную кнігу. **12**. ...-Заблоцкі. Беларускі і польскі пісьменнік XIX ст., ураджэнец Мёршчыны. Аўтар драмы «Капернік». **13**. «... мінулага». Археалагічны краязнаўчы гуртох у Мёрскай СШ № 3. **16**. Дысцыплінарнае спагнанне. **19**. Барысавы ... – археалагічныя помнікі ў рэчышчы Заходняй Дзвіны. **20**. Капец-... – назва Дзісенскага замка, які існаваў у XIV–XVII стст., паводле дакументаў XVI ст. **23**. Спартсмен, які мае адносіны да альпінізму. **24**. Самае буйное возера ў раёне. Тое самае, што і летапіс. **29**. Тытул С. Баторыя, які неадназова наведваў г. Дзісну. **30**. Беларускі спявак (бас), заслужаны артыст Беларусі. Спяваў у Дзяржаўнай акадэмічнай капэле Р. Шырмы. У дзіцячыя і юнацкія гады жыў у в. Перабродздзе. **34**. Адзін з найбуйнейшых дзеячаў беларускага Адраджэння. Разам з іншымі дзеячамі абвясціў 25 сакавіка 1918 г. Беларускую Народную Рэспубліку. Ураджэнец былога фальварка Калеснікі. Рэпрэсаваны і расстраляны. Рэабілітаваны ў 1958 і 1988 гг. **36**. Пералётная птушка сямейства бакасавых. Сустракаецца на верхавых балотах Мёршчыны. Занесена ў Чырвоную кнігу Беларусі. **37**. Навучальная ўстанова, якая была адкрыта ў Дзісне ў 1755 г. **38**. Грунт пад вадой возера, ракі. **39**. Тое, што і наваколле. **40**. Храм, пабудаваны ў 1905–1907 гг., які сваёй архітэктурай упрыгожвае Мёры.

***Упоперак***

**1**. Выдатны дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі, які нарадзіўся непадалёк ад Дзісны. Актыўны сябар ТБШ і БСРГ. Зведаў польскія турмы і сталінскі ГУЛАГ. Рэпрэсаваны, загінуў у лагеры. Рэабілітаваны ў 1956 г. **2**. Археолаг, кандыдат гістарычных навук. З 1977 г. займаецца даследаваннем археалагічных помнікаў Мёршчыны. **3**. Адзін з галоўных экспартных тавараў былога Дзісенскага павета. **4**. ...-Мох. Гідралагічны заказнік на Мёршчыне, утвораны ў 1981 г. **5**. Белы ... – самы старажытны на Мёршчыне будынак у м. Лявонпаль, які адметны сваёй цудоўнай архітэктурай. Пабудаваны ў 1750 г. пісару ВКЛ Мікалаю Лапацінскаму. **8**. Вучоны-гісторык, прафесар Маскоўскага універсітэта. Ураджэнец г. Дзісны. **10**. Цэнтр ваяводства, у якое ў 1930-я гг. уваходзіў Дзісенскі павет. **14**. ...-Мірскі, суддзя земскі браслаўскі, які ў 1644 г. заснаваў у Мёрах праваслаўны манастыр. **15**. Узброенае масавае выступленне ў 1831 г. у Дзісенскім павеце, накіраванае супраць рускага царызму. **17**. Гісторыка-этнаграфічны рэгіён Беларусі, у які ўваходзіць тэрыторыя Мёрскага раёна. **18**. Сімяон ... – слынны асветнік XVII ст., які завяшчаў значныя сумы праваслаўным манастырам Мёраў і Дзісны. **21**. «Беларускі ...» – мянушка, якую атрымаў на Мёршчыне за клопат аб людзях Кузьма Крук, актыўны сябар ТБШ і БСРГ. Расстраляны фашыстамі ў 1942 г. **22**. На ... павінна быць сена і ў дурня (прык.). **25**. Беларускі мастак, прафесар. Аўтар графічных працаў "Дарога на Мёры", «Віцебск і Віцебшчына» ды інш. Ураджэнец Мёршчыны. **27**. Вучоны-геолаг, доктар геолага-мінералагічных навук, родам з Мёршчыны. Аўтар адкрыцця найбуйнейшага ў СССР радовішча карунду. **28**. Колькі адзін ... дасць снегу, столькі другі дасць травы (прык.). **31**. Палітычны, грамадскі і ваенны дзеяч ВКЛ XVI–XVII стст. Заснаваў касцёл у в. Новы Пагост. Пэўны час валодаў маёнткамі Чэрас (Чэрасы), Грудзінаў (Грудзінава), Ідолта (Дапбровіца), Купцялеўшчызна, Лявонпаль (Чурылавічы) ды інш. **32**. Спецыяліст па захаванню чысціні прыроднага асяроддзя. **33**. Герой Савецкага Саюза, віцэ-адмірал. Ураджэнец Мёршчыны. **35**. Адна з асноўных прафесій пачынальніка беларускага нацыянальнага тэатра І. Буйніцкага, ураджэнца Дзісенскага павета.

*Склаў Лявон ЦЕЛЕШ, г. Дзяржынск*



## Народ загадаў

Доўгае вужышча, цераз увесь свет свішча.

*Матаецца, матаецца, на клубок не зматаецца.*

Ляжыць князь-расцягнязь, як устане, дык і неба дастане.

*Паваліўся дуб, у кожны двор сук.*

Што каморка, тое і падпорка.

## Адказы на крыжаванку, змешчаную у № 17

***Уздоўж:***

**1**. Балея. **4**. Лахва. **7**. Пакос. **10**. Фро. **11**. Пэр. **12**. Гайна. **13**. Наготкі. **14**. Рызманы. **16**. Сантана. **19**. Турнэпс. **22**. Вір. **24**. Малярыта. **25**. Абалянка. **26**. Лік. **28**. Струста. **31**. Масліна. **34**. Града. **35**. Лосвіда. **37**. Траўгут. **39**. Трабы. **40**. Арк. **41**. Луі. **42**. Арыён. **43**. Амаці. **44**. Ярыла.

***Упоперак:***

**1**. Бернэс. **2**. Лезгін. **3**. Яфет. **4**. Логіка. **5**. Хойнікі. **6**. Апарат. **7**. Прыз. **8**. Курарэ. **9**. Сірыус. **17**. Азарт. **18**. Абрус. **20**. Рэлес. **22**. Вал. **23**. Рак. **27**. Іпатава. **28**. Сялява. **29**. Расоны. **30**. Агатка. **31**. «Матылі». **32**. Інгушы. **33**. Астана. **36**. Іран. **38**. Азія.

# Малая краязнаўчая энцыклапедыя

***(Пачатак у № 1 за 2003 г.)***

**ГАБОЙ** – духавы язычковы інструмент: драўляная трубка канічнай формы з падвойнай трысцінкай і сістэмай клапанаў. Гучанне, па вызначэнні музыказнаўцаў, крыху гугнявае, істотна адрозніваецца афарбоўкай і характарам у розных рэгістрах. Выкарыстоўваецца як сольны, ансамблевы і аркестравы інструмент. Апрача асноўнай разнавіднасці, вядомы малы габой, габой д'амур, англійскі ражок. Узнік у сярэдзіне XVII ст. у выніку ўдасканалення старажытнага народнага інструмента шалюмо. Найбольш раннія звесткі пра ўжыванне габоя ў аркестры на Беларусі адносяцца да 2-й пал. XVIII ст. Захаваліся да нашага часу імёны некаторых выканаўцаў – напрыклад, габаіста-віртуоза С. Світанскага з Гродна. Для габоя напісалі музычныя творы многія беларускія кампазітары XX ст., у музычных сярэдніх установах і ў кансерваторыі Беларусі ёсць класы ігры на габоі.



*Габой*

**ГАВОРКА** – асобная адзінка дыялектнай мовы, сродак зносін насельнікаў пэўнага рэгіёну. Кожная гаворка (напрыклад, слуцкая, навагрудская, чэрвеньская) ўяўляе сабой сістэму ўзаемазвязаных асаблівасцей – фанетычных, граматычных, лексіка-фразеалагічных, што дзейнічаюць як элементы складанага моўнага арганізма. Група ці некалькі груп мясцовых гаворак, аб'яднаных агульнасцю рыс у фанетыцы, граматычным ладзе і лексічным складзе, утвараюць *дыялект* – самую вялікую тэрытарыяльную разнавіднасць дыялектнай мовы. На пачатку развіцця беларускай мовы як такой гаворкі былі асновай фармавання агульнанацыянальнай літаратурнай мовы, а на працягу ўсёй яе гісторыі служылі крыніцай папаўнення і ўзбагачэння шляхам выкарыстання найперш у творах мастацкай літаратуры (яркія прыклады выкарыстання гаворак і дыялектаў, што сталі і літаратурнымі нормамі, паказаў яшчэ Ф. Скарына ў сваіх прадмовах і пасляслоўях да выданняў кніг Біблії ў першай чвэрці XVI ст.). Пісьменнікі часта ўжываюць мясцовыя гаворкі і дыялекты для стварэння мясцовага каларыту: напрыклад, «крук» – каршун (Я. Купала), «жардзяніх» – плот з жэрдзя (М. Лобан), «мабуць» – мабыць (І. Мележ), «додніца» – раніца (І. Пташнікаў) і інш. У аўтарскай мове словы і выразы з гаворак асабліва апраўданы тады, калі ярка абазначаюць рэаліі, якіх няма ў літаратурнай мове, напрыклад, «віша» – няскошаная, пакінутая зімаваць на корані трава (М. Лужанін), «гарусоўка» – святочная шарсцяная хустка (І. Чыгрынаў), «вясёнка» – вясенняя жаночая куртка (Г. Далідовіч) і інш. Мовазнаўчым вывучэннем гаворак займаюцца дыялекталогія, лінгвістычная геаграфія, дыялектная лексікаграфія. Вынікі гэтага вывучэння маюць значэнне і для літаратуразнаўства. Моўны аналіз спрыяе высвятліць аўтарства, час і месца напісання ананімных твораў дарэвалюцыйнай беларускай літаратуры.

## Народ параўнаў

Патрэбны ты тут як цыбулька да патрэўкі.

**Пляце як кашалі з лапцямі.**

**Гуляе як той бусел з жабай.**

**Крычыць як варона на калку.**

**Жывуць як золата важаць.**

**Разбіраецца як свіння ў кроснах.**

Чакаў як сабака каменя з-за вугла.

**Упутаўся як певень у кудзелю.**

На чужым месцы, што ў лесе.

**Стаіць як цапільня з бічом.**

Вочкі як скочкі, губкі як трубкі.

**Харошая як авеча маці.**

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета
Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамаснай – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас: 220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6. Тэл. 283 28 26, 234 61 62. E-mail: kraga@tut.by



Падпісана да друку: 10.05.2007. Газета надрукавана ў друкарні ТДА «Знамение» (Мінск, вул. Каржанеўскага, 14). Ліцэнзія ЛП № 02330/0131538 ад 04.10.2005.
Заказ 535
Тыраж 1400 асобнікаў.